НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 43 (736) 23 лістапада 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Хто і супраць каго сябруе ў беларускім футболе?

Футбольныя фанаты нагадалі пра сябе бойкай на станцыі «Купалаўская». Старонка 9.



# Блокбастар «Жыве Беларусь!»

У Польшчы пачалі здымаць фільм аб прыгодах беларускага апазіцыянера. З бюджэтам **2 мільёны даляраў**. **Старонка 11.**



Тэндэнцыі

## У Маларыцкім раёне ўзбунтаваліся даяркі

Начальства **павысіла заробкі**.

У Маларыцкім раёне адбылася кароткая забастоўка даярак. Жанчыны дабіваліся падвышэння сваіх заробкаў.

Старшыня СВК «Хаціслаўскі» Васіль Пішчык расказаў «Нашай Ніве», што «казус» сапраўды меў месца. Па яго словах, здарыўся ён ад таго, што работнікам фермы не паспелі паведаміць пра новую стаўку аплаты працы. Падвышэнне заробкаў планавалася, кажа Пішчык, і да бунту даярак. І цяпер усе пытанні вырашаны. «Сітуацыі ж розныя ўзнікаюць пастаянна, як і ўсюды».

Начальнік Упраўлення па працы і сацыяльнай абароне Маларыцкага райвыканкама не змагла пракаментаваць інцыдэнт на ферме, бо не чула пра яго.

Паводле словаў работніц, іх заробак дасягнуў цяпер 800 тысяч рублёў.

**Кастусь Матушыч**

## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

Палітыка

### Лукашэнка падпісаў Беларусь яшчэ ў адзін саюз

За гэта атрымаў танны газ. **Старонка 3.**



Гаспадарка

### «Наш бізнэс спецыфічны»

Пра аграсядзібы гутарка з Алесем Белым. **Старонка 5.**



Грамадства

### Колькі зарабляюць беларусы ў Венесуэле?

На працу біруць самых здаровых. **Старонка 6**



Меркаванні

### Суддзя Стук і пракурор Стук

Камертон Сяргея Ваганава. **Старонка 8.**



Крымінал

### Тры смерці за адну дзяўчыну

Крывавая драма разыгралася ў Мазыры. **Старонка 10.**



## 27 лістапада — Дзень герояў

На 91-я ўгодкі Слуцкага паўстання плануецца ўрачысты мітынг.

У нядзелю, 27 лістапада, у Слуцку адбудзецца святкаванне 91-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну.

«Спачатку мы праедзем па месцах, дзе паўстанцы вялі баі, — Семежава, Грозава, Красная Слабада, наведаем месцы пахаванняў, дзе фронтаўцы паставілі крыжы, — кажа Валеры Буйвал, намеснік старшыні КХП-БНФ, якая падала заяўку на правядзенне ўрачыстасцяў. — А пасля ў Слуцку адбудзецца ўрачысты мітынг для ўшанавання памяці герояў».

27 лістапада міне 91 год ад пачатку баявых дзеянняў. Паўстанцы прызнавалі вярхоўнай уладай у Беларусі Найвышэйшую раду БНР і не пускалі на Случчыну бальшавікоў. 1-я Слуцкая брыгада на чале з Антонам Сокалам-Кутылоўскім доўгі час трымала фронт у 60 км па лініі Капыль — Цімкавічы — Вызна.

**Юрась Ускоў**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**З кіраўніком афіцыйных прафсаюзаў Козікам здарыўся канфуз. Федэрацыя прафсаюзаў распаўсюдзіла яго інтэрв'ю, у якім ён заклікаў павысіць да 20% падаходны падатак для ўсіх, хто зарабляе больш за 1000 даляраў у месяц. А пасля разаслалі абвяржэнне: маўляў, такой прапановы няма, гэта была тэхнічная памылка. На фота: Леанід Козік на адкрыцці кірмашу для старэйшага пакалення «50+».**

## У саўгас «Гарадзец» за апошнія гады ўкладзена 68 мільярдаў

Гаспадаркай, якой калісьці кіраваў Лукашэнка, апякуецца «Беларусбанк».

Аб'ём сродкаў «Беларусбанка», інвеставаных у ПУП «АСБ Гарадзец», які знаходзіцца ў Шклоўскім раёне, з 2005 года склаў 67,98 мільярда рублёў. У іншыя тры сельгаспрадпрыемствы, якія апякае банк, за гэты тэрмін было ўкладзена яшчэ 86 мільярдаў рублёў.

Усяго ж за апошнія шэсць гадоў «Беларусбанк» выдаў беларускім сельгаспрадпрыемствам больш за 13,5 трыльёна рублёў крэдытных сродкаў.

**Паводле Onliner.by**

# Алексіевіч: «Мы коцімся да грамадзянскага канфлікту»

Беларускае грамадства ўсё больш падзяляецца на тых, хто «за» і хто «супраць» улады, лічыць пісьменніца.

Падчас выступу на цырымоніі ўручэння прэміі шведскага ПЭН-цэнтра ў Стакгольме Святлана Алексіевіч выказала думку, што паміж уладай і народам існуе своеасаблівая здзелка.

«Усе разумеюць, што ў краіне дыктатура і што ўлада несправядлівая, але пагаджаюцца з такімі правіламі гульні ў абмен на заробак, аўтамабіль і адпачынак у Турцыі. І пакуль не пачаўся эканамічны крызіс, калі стала жыць дрэнна, людзі ўвогуле не задумваліся наконт пераменаў», — лічыць Алексіевіч.

Крызіс спарадзіў у грамадстве небяспечныя тэндэнцыі, кажа пісьменніца: «Мы коцімся да грамадзянскага канфлікту, да крыві. Мала таго, што ў турмах яшчэ дзясяткі людзей, прымаюцца новыя законы. Улада гатовая ваяваць з народам».

Пісьменніца згадала нядаўні закон пра КДБ, а таксама выказванні кіраўніка дзяржавы пра стварэнне тэрытарыяльнай арміі. У размовах з дзясяткамі маладзёнаў пісьменніца



чула тое, пра што раней чытала ў Салжаніцына.

«Сотні найлепшых, шчырых маладых людзей маюць вопыт турэмнага зняволення ці пераследу, гэта значыць вопыт барацьбы. З аднаго боку, гэта выклікае захапленне. А з іншага, гэта ўсё небяспечна. Яны хочуць свабоды і хочуць адпомсціць».

Але больш за ўсё адпомсціць уласнаму народу хоча ўлада. Бо як інакш растлумачыць, што праходзяць спецыяльныя вучэнні па барацьбе з грамадзянскім насельніцтвам, кажа Алексіевіч і задумваецца пра апошнія выказванні Лукашэнкі. «Выступаючы перад міліцэйскімі чыноўнікамі, Лукашэнка прыхавана працытаваў Гітлера. Ён сказаў: «Не думайце пра тое, ці добра вы робіце. Пра гэта буду думаць я». Гітлер казаў: не думайце пра сумленне. Ваша сумленне — гэта я», — адзначае Алексіевіч.

«Яго нядаўнія словы гучалі, што народ павінен абараняцца (ад каго?). Што кожны аўтамат і кулямёт, якія ёсць на тэрыторыі Беларусі, павінен належаць канкрэтнаму чалавеку. Як вы помніце, Кадафі таксама казаў, што народ падымецца за яго, і ўсім раздаць вінтоўкі».

Алексіевіч даводзілася размаўляць з людзьмі, чые дзеці сядзелі ў турмах. Суседзі зараз коса на іх глядзяць. Усе гэтыя размовы навялі яе на думку, што ёсць дзве краіны: «Мэтанакіравана з дня ў дзень у нас з Беларусі робяць дзве Беларусі».

Час рамантызму скончыўся, канстатуе пісьменніца, пачаўся час сур'ёзнай размовы, сур'ёзных падзеяў. Бо «метафізічная кілбаса» даражэе за той час, пакуль яе ўзважваюць.

**Аксана Рудовіч, Стакгольм**

## Сцісла

### Не хакей

Шэраг вядомых людзей звярнуўся ў Міжнародную федэрацыю хакея з шайбай з заклікам перанесці Чэмпіянат свету па хакеі 2014 года з Беларусі ў іншую краіну. Сваю просьбу яны матывуюць палітычнымі рэпрэсіямі ў Беларусі. Пад заявай падпісаліся былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел, драматург Том Стопард, славуты ў мінулым літоўскі баскетбаліст Шарунас Марчулёніс, кіраўнікі Свабоднага тэатра Мікалай Халезін і Наталля Каляда.

### Калядныя распродажы

У крамах пачалі працаваць навагоднія аддзелы.

### Прэм'ер Турцыі заклікаў Асада сысці

У Сірыі разгарэлася паўстанне. Грамадства патрабуе адстаўкі Башара Асада, сям'я якога кіруе краінай ужо 40 гадоў. Прэм'ер-міністр найбольшай краіны рэгіёна, Турцыі, Рэджэп Таіп Эрдаган заявіў, што прэзідэнт Сірыі павінен сысці дзеля дабра сірыйцаў і ўсяго рэгіёна. Па словах Эрдагана, барацьба Асада з уласным народам — гэта праява «баязлівасці».

**КМ; БелаПАН**

## Дзе варта быць

### Прэзентацыя «Расійска-беларускага слоўніка» Некрашэвіча і Байкова ў Мінску

У пятніцу 25 лістапада ў 19.00 у памяшканні кнігарні «логвінаЎ» (праспект Незалежнасці, 37а) адбудзецца прэзентацыя аднной з найлепшых кніг на беларускай мове, выдадзеных сёлета, — «Расійска-беларускага слоўніка» Некрашэвіча і Байкова. У сустрэчы возьмуць удзел навуковы кансультант выдання Сяргей Запрудскі і выдавец Валер Булгакаў. Запрашаем усіх неабыякавых да беларускай мовы і культуры людзей на сустрэчу, на якой таксама будуць прадстаўлены іншыя навінкі «ARCHE» — у тым ліку папулярны том «Хрышчэнне нацы. Масавыя акцыі 1988–2009».

## «НН» – 105 гадоў

23 (10) лістапада 1906 года ў Вільні выйшаў самы першы нумар газеты «Наша Ніва». Віншуем усіх чытачоў і аўтараў з гадавінай!



## Самае чытанае на nn.by за 16—22 лістапада

1. У інтэрнэце ідзе збор подпісаў супраць расстрэлу Канавалава і Кавалёва
2. Студэнты прынеслі ў магазін шэсць кілаграмаў грошай + фота
3. «Усё цяпер пераходзіць у рукі Віктара Лукашэнкі»
4. Польскі фільм пра Франака будзе называцца «Мірон. Жыве Беларусь»
5. Спрэчныя моманты відэазапісу з метро
6. На пероне «Купалаўская» фанаты біліся і ўзрывалі петарды
7. Разборкі ў Мазыры: трое мужчын загінулі з-за дзяўчыны
8. Лукашэнка: Буду рашаць, ці памілаваць Канавалава і Кавалёва
9. Відэа, якое выклікала сумневы ў адваката Кавалёва
10. Матацыкл «Мінск» на еўрапейскім мотасалоне ў Мілане — фота

# Лукашэнка падпісаў Беларусь яшчэ ў адзін саюз

Мядзведзеў, Лукашэнка і Назарбаеў падпісалі **дэкларацыю аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі**.



У дакуменце бакі заявілі аб пераходзе да наступнага этапу інтэграцыйнага будаўніцтва — Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП). Яе фармаванне павінна быць скончанае да пачатку 2015 года.

А ўжо потым можна будзе гаварыць пра магчымасць стварэнне на базе АЭП і Мытнага саюза Еўразійскага эканамічнага саюза. Назва, дарэчы, вельмі сугучная з ужо існуючай Еўразійскай эканамічнай супольнасцю. Істотнай розніцы паміж новымі ўтварэннямі мала. А абрэвіятуры так блытаюцца, што чорт нogi зломіць.

Важнай навінкай ёсць тое, што гаворка ўжо будзе ісці пра стварэнне наднацыянальнага органа з прадстаўнікоў Беларусі, Расіі і Казахстана, ён будзе называцца

## Адносіны вярнуліся ў стан 2005 года

Еўразійскай эканамічнай камісіяй. У яе склад увойдуць па адным віцэ-прэм'еру трох краін. Дзевяць чалавек з камісіі атрымаюць статус «федэральнага міністра» з «шырокім партфелем магчымасцяў». Аднак у цэлым 84% яго чыноўнікаў будуць з Расіі, 10% — з Казахстана і толькі 6% з Беларусі.

Фактычна, у Маскве краіны дамовіліся аб «дарожнай карце», канчатковай мэтай якой ставіцца стварэнне Еўразійскага саюза. Любімая мара Уладзіміра Пуціна.

Для Расіі падпісанне гэтых дакументаў важнае напярэдадні парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў. Пуціну трэба паказаць поспехі на постсавецкай прасторы. Для многіх расіян Еўразійскі саюз разглядаецца як адна з формаў пашырэння краіны.

Гаворачы аб перспектывах Еўразійскага саюза, дэпутаты Дзярждумы Уладзімір Мядзінскі і Роберт Шлегель выкарыстоўвалі тэрмін «вялікая краіна».

Якія б перспектывы ні чакалі палітычную інтэграцыю, эканамічныя пагадненні, падпісаныя Аляксандрам Лукашэнкам, надзейна прымуравалі Беларусь да Расіі.

З уваходжаннем у Адзіную эканамічную прастору Беларусь страціць стымулы для дыверсіфікацыі крыніц энерганосьбітаў і мадэрнізацыі энергасістэмы. За такую прывязку Беларусі да Расіі Крэмль шчодра плаціць Лукашэнку палітычнай падтрымкай і нафтагазавымі зніжкамі.

**Расія распараджаецца Беларуссю, як Краснадарскім краем**

У выпадку зрыву перамоваў з ЗША па праблеме ПРА Расія можа разгарнуць комплексы «Іскандэр» у Калінінградскай вобласці, Беларусі і Краснадарскім краі. «Іскандэры» прызначаны для паражэння малапамерных і вулічных цэляў. Мяркуецца, што можа быць сродкам дастаўкі тактычнай ядзернай зброі.

І рэакцыі чакаць доўга не давялося. Расейская газета «Ведомості» піша, што цана расійскага газу для Беларусі знізіцца ўдвая. Цана можа скласці крыху больш за 150 даляраў за тысячу кубаметраў. Значыць, пасля «Хросных бацькоў» адносіны вярнуліся ў стан 2005 года.

Таксама расійскі бок паабяцаў мільярд даляраў у крэдыт на падтрымку «Беларуськалія» і ўсёй эканомікі ў цэлым.

Адзіным пазітыўным момантам у новых інтэграцыйных праектах можа быць спыненне існавання саюза Беларусі і Расіі. Тэма гэтага саюза не ўзнікае апошнім часам падчас перамоваў на вышэйшым узроўні. Можа апынуцца так, што новага дзяржсакратара саюзнай дзяржавы так і не прызначаць. Навошта, калі ёсць інтэграцыя ў рамках «тройкі»?

**Зміцер Панкавец, Мікола Бугай**

# Сяргей Мусіенка: Не дапусціць дамінавання адной краіны, не важна якой

Новы этап постсавецкай інтэграцыі мы папрасілі пракаментаваць **кіраўніка праўладнага аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргея Мусіенку**.



**Сяргей Мусіенка**

нарадзіўся ў 1964 ва Умані Чаркаскай вобласці (Украіна). З 2003 узначальвае аналітычны цэнтр ЕСООМ. Суаўтар кнігі «Куды ідзём? Беларусь, Расія, Украіна».

**«Наша Ніва»: Спадар Сяргей, ці азначае сённяшняя інтэграцыя ў рамках «тройкі» спыненне існавання саюза Беларусі і Расіі?**

**Сяргей Мусіенка:** Я б сказаў, што гэта яго развіццё. Пры ўсёй маёй нелюбові да Паўла Барадзіна, ён гаварыў, што гэты саюз мусіць пашырацца. Называў самыя міфічныя краіны. Казахстан — гэта краіна рэальная. І сённяшнее ўтварэнне робіцца на аснове вопыту саюзнай дзяржавы, хай і не вельмі ўдалага. Што рабіць са структурамі саюзнай дзяржавы — пытанне дыскусійнае. Пасля сыходу Барадзіна, магчыма, адбудуцца нейкія рэарганізацыйныя моманты.

**«НН»: Еўразійскі саюз стане больш паспяховым за саюз Беларусі і Расіі?**

**СМ:** Саюз з Расіяй не задаўся ад самага пачатку. Не было яснага разумення, што мы ад яго хочам. Не было расійскага інтарэсу ў ім. Сёння, выглядае, усё будзе інакш. І нават змяншэнне цаны на газ можа пра гэта сведчыць. Немагчыма, каб на адным інтэграцыйным утварэнні былі настолькі перакошаныя цэны. Для Казахстана Еўразійскі саюз мае вялікае значэнне, асабліва ў плане транспарціровак. Раней яны не маглі часам дасягаць еўрапейскага рынку праз вялікія адлегласці. Зараз праблем у іх не будзе.

**«НН»: Што Беларусі дасць Еўразійскі саюз?**

**СМ:** Вялікі рынак у 200 мільёнаў чалавек [165 мільёнаў — **Рэд.**]. Усё ж нашы тавары больш пасуюць для гэтай тэрыторыі. Гэта і адсутнасць моўнай мяжы, падобная ментальнасць. Рабіліся крокі і для больш цеснага супрацоўніцтва ў процілеглым кірунку, але крокаў у адказ так і не дачакаліся. Не ўвесь жа час чакаць. Расія, Казахстан — добрыя выхады для нашых прадуктаў.

**«НН»: Адзіная валюта Еўразійскага саюза — гэта можа быць рэальным?**

**СМ:** Ва ўсім свеце існуюць адналькавыя інтэграцыйныя правілы. Калі гаворка ідзе пра такі саюз у Лацінскай Амерыцы, то чуецца пра адзіную валюту. Тое ж у Персідскай затоцы ці ў Еўропе. Калі Еўразійскі саюз добра сябе зарэкамендуе, то гэта магчыма.

**«НН»: Ёсць небяспека, што вялікія дзяржавы Расія і Казахстан будуць дыктаваць свае ўмовы ў саюзе?**

**СМ:** Нам заўсёды было цяжка. Толькі па шчасліўым збегу абставін не кінула нас пад крыло Расіі ў 1993—94-м. Тады людзі б з радасцю пайшлі на такое. За гэты час мы сталі разумець сябе як нацыю. Каштоўнасці беларусаў цяпер мала чым розняцца ад каштоўнасцей літоўцаў — мова, гісторыя. Мы сталі адрозніваць сябе ад расейцаў. У нас іншая мова, псіхатып, і гэта немагчыма сцерці. У такіх умовах важнае месца павінны заняць культурныя эліты нацыі — паказаць нашу адметнасць. Безумоўна, пагрозы ёсць. Таго ж засілля расейскай мовы.

**«НН»: Па апытаннях ЕСООМ, якая дынаміка паміж прыхільнікамі інтэграцыі з Расіяй і Еўрасаюзам?**

**СМ:** Людзі хочуць жыць у сваёй краіне. Яны супраць паглынання як Расіяй, так і Еўрасаюзам. Такія тэндэнцыі існуюць апошнія 6-7 гадоў. Хаця я думаю, ніякага аншлюсу ці захопу не будзе. Мне таксама не падабаецца, што ў нас шмат расійскіх банкаў. Хацелася б бачыць і літоўскія, і польскія. Нельга дапусціць дамінавання ў нас адной краіны, не важна якой. Для гэтага трэба шмат працаваць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

Меркаванні

# «Усё цяпер пераходзіць у рукі Віктара Лукашэнкі»

«Барацьба ў сілавых ведамствах закончылася даўно, гады два таму, — кажа рэдактар «Ежедневника» Сяргей Сацук, які мае шмат кантактаў у сілавых структурах. — Справа Грамовіча — толькі адгалоскі той барацьбы. За матыў апраўдання ўзята тое, што следчая Байкова падчас следства перавысіла свае паўнамоцтвы. На падставе гэтага доказы, сабраныя яе камандай, былі прызнаныя несапраўднымі. Гэта адгалоскі старой барацьбы сілавых ведамстваў, якой ужо няма. Зараз усё ідзе ў адзін бок, да Віктара Лукашэнкі».

Сацук звяртае ўвагу, што ў часе прызначэння Следчага камітэта побач з Вакульчыкам сядзеў Віктар Лукашэнка.

Спачатку пазіцыя старэйшага сына кіраўніка дзяржавы была ўзмоцненая праз КДБ і Памежны камітэт, потым праз Аператыўна-аналітычны цэнтр, а цяпер і праз Следчы камітэт.

На думку Сацука, гэта няправільная сітуацыя. Кіраўнік дзяржавы зараз будзе абапірацца толькі на адзін пункт гледжання: свайго сына і ягонай каманды.

Таму памылліца ў такіх абставінах значна прасцей, і памылка будзе больш прыкметнай.

**Паводле радыё «Свабода»**



Гэтыя рукі цяпер могуць падрыхтаваць любы загад.

# Саннікава таямніча перавялі ў іншую калонію

А **адвакату не дазваляюць** сустрэцца з асуджаным палітыкам.


Адзінаццаць месяцаў як Андрэй Саннікаў за кратамі.

PHOTO BYMEDIA.NET

« Этап — адно з найбольш цяжкіх выпрабаванняў для вязняў

16 лістапада адвакат Андрэй Варвашэвіч прыехаў на спатканне са сваім падабаронным Андрэем Саннікавым у бабруйскую калонію. Але, на дзіва, палітыка там не было. У адміністрацыі толькі пацiскалі плячыма, калі ў іх спрабавалі нешта высветліць пра лёс Саннікава. «Мы нічога не ведаем, звяртайцеся ў Дэпартамент выканання пакаранняў», — адказвалі там.

Жонка палітыка Ірына Халіп нібыта білася ў зачыненыя дзверы, каб атрымаць хоць нейкую інфармацыю.

Апошні раз весткі пра Саннікава даходзілі за тыдзень да гэтага. Было вядома, што ў Бабруйску ён лечыць спіну, якая стала яго турбаваць. З лістоў да родных нічога таксама не было зразумела пра хуткі перавод. Значыць, ён рабіўся спантанна і таямніча.

Што такое этап для вязняў, неаднаразова гаварылася. Гэта адно з найбольшых выпрабаванняў, якія даводзіцца цярпець палітзняволеным. Саннікаў жа мяняе калонію ўжо ў другі раз. Пасля «амерыканкі» яго перавялі ў Наваполацкую калонію, потым — у Бабруйскую. І вось новы этап.

Цяпер Андрэй Саннікаў знаходзіцца ў Магілёўскай турме №4. Невядома, колькі палітык прабудзе ў Магілёве. Але далей яго этапуюць у перасыльную турму ў Віцебск. Выконваючы абавязкі начальніка Дэпартамента выканання пакаранняў Сяргей Працэнка прычыну пераводу патлумачыў Ірыне Халіп тым, што ў Бабруйску існуе «небяспека для жыцця і здароўя палітыка».

Раней Ірына Халіп на прэсканферэнцыі паведамляла, што да Саннікава падсаджвалі ў памяшканне камернага тыпу хворага на сухоты чалавека і «апушчанага», каб падарваць аўтарытэт палітыка за кратамі. Па словах журналісткі, Андрэю Саннікаву сказалі, што ёсць адзіны выхад з сітуацыі — напісаць прашэнне аб памілаванні. А ў выпадку шуму ў СМІ з нагоды парушэння яго правоў адміністрацыя калоніі заявіць аб пагрозе яго жыццю і што ў калоніі не ў стане гарантаваць яго бяспеку. І Андрэй паедзе далей па этапе — будзе «матляцца» па перасылках увесь тэрмін.

**Зміцер Панкавец, Кастусь Матушыч**

### Сцісла

**Адлічаюць — не адлічаюць**

Маладафронтаўца Паўла Сяргея спрабавалі адлічыць з Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа. Афіцыйна — за парушэнне статута навучальнай установы. Малады ж чалавек гэта звязвае з адміністрацыйным арыштам, які ён адбываў за акцыю 7 лістапада ў Мінску. Ён разам з іншымі хлапцамі закідаў яйкамі помнік Леніну. За што атрымаў сем сутак. Але пасля ўзнятага шуму ў прэсе адміністрацыя каледжа не стала адлічаць Сяргея.

**Засталася без працы**

Сябра аргкамітэта Народнага сходу з Баранавіч Анжэла Камбалава звольнілася з прыватнай фірмы «Белаграбудпадшыпнік». Дырэктарка фірмы, дзе Камбалава 6 гадоў прапрацавала бухгалтарам, прапанавала ёй звольніцца па згодзе бакоў. Па словах актывісткі, дырэктарка напалохалася магчымых праверак. На актывістку на працоўным месцы міліцыя складала пратакол за распаўсюджванне ўлётак пра Народны сход. І была пакараная штрафам у 350 тысяч рублёў.

**Малітву расцанілі як лаянку**

Аляксандра Макаева асудзілі да арышту ў 5 сутак, а Аляксандра Кальянава — да штрафу ў памеры 5 базавых велічынь. Мужчын затрымалі 16 лістапада на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску падчас малітвы за палітвязняў. Пратаколы былі складзеныя за нецэнзурную лаянку па артыкуле 17.1 КаАП РБ (дробнае хуліганства).

**КМ**

## Малчанаў: «Я застаюся»

Былы палітвязень **не баіцца новага суда**.

Барысавец Аляксандр Малчанаў толькі два месяцы правёў на свабодзе. За гэты час ён паспеў адбыць адміністрацыйны арышт, стаў фігурантам чарговай крымінальнай справы. Яму пагражае новы тэрмін.

**Аляксандр Малчанаў:** Справу завялі па артыкуле 370 КК (абраза дзяржаўных сімвалаў). Нібыта я нанёс здзеклівыя надпісы на дзяржаўным сцягу. Расследаванне ідзе. Абвінавачванне пакуль не прад'яўлена — я знаходжуся ў статусе падазраванага. І мера ўтрымання ніякая не вызначана.

**«Наша Ніва»: Адпаведна, з матэрыяламі справы Вы не знаёміліся. Ці сапраўды мела месца ў Барысаве такое злачынства?**

**АМ:** Так, было. Але я адмаўляе сваю прыналежнасць да гэтага.

**«НН»: З чым звязваеце свой пераслед?**

АМ: Я, напэўна, адзіны чалавек у Барысаве, які прыцягваўся па гэтым артыкуле раней. Думаю, таму мяне і пачалі падазраваць.

**«НН»: Як Вы ўладкаваліся пасля вызвалення, чым займаецеся?**

**АМ:** Пакуль беспрацоўны. З'ўляюцца часовыя падпрацоўкі, сябры дапамагаюць. Чым займуся, тым і буду займацца. Спыняць грамадскую дзейнасць не збіраюся.

**«НН»: Пасля падзей 19 снежня частка актывістаў выехала за мяжу.**

**АМ:** Хоць на себе і адчуваю праблемы, сам нікуды збягаць не збіраюся. Безумоўна, у Беларусі нельга быць упэўненым цалкам у тым, што заўтра чагосьці не адбудзецца, што не будзе падстаў, пераследу. Людзі павінны самі вырашаць, дзе для іх бяспечней. Але я застаюся ў Беларусі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Аляксандр Малчанаў**

У сакавіку 2011 быў асуджаны на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму па справе масавых беспарадкаў. 14 верасня памілаваны Аляксандрам Лукашэнкам, прашэнне на яго імя не пісаў. Пасля вызвалення неаднаразова ў яго доме ў Барысаве праводзіліператрус. 27 кастрычніка асудзілі на 10 сутак адміністрацыйнага арышту за нібыта непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. За кратамі правёў 13 сутак.

## Фармулёўку падправілі, а тэрмін той самы

Алесю Бяляцкаму па-ранейшаму пагражае **да сямі гадоў зняволення**.

Аднавіўся працэс па справе старшыні праваабарончага цэнтра «Вясна». Але толькі на сорак хвілін. Пракурор Валерый Сайкоўскі зачытаў новую фармулёўку старога абвінавачвання. Абарона ж узяла перапынак да 22 лістапада.

Судовае пасяджэнне ад пачатку выглядала дзіўным. Пракурор адразу ж папрасіў дваццаціхвілінны перапынак. Маўляў, не паспеў сфармуляваць абвінавачванне так, каб яно было зразумела абвінавачанаму і адвакату.

У новым абвінавачванні дадалася толькі фармулёўка «ў выкананне раней заключаных дамоўленасцяў», гэта значыць грошы ад пачатку ішлі на пэўныя мэты, а не ў даход самога Бяляцкага.

Артыкул Крымінальнага кодэкса застаўся той самы — 243, частка 2 (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, што пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры). Караецца да сямі гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

**КМ**

### Фотафакт



**16 лістапада «Маладыя дэмакраты» зладзілі акцыю салідарнасці. На Нямізе запалілі знічы і выклалі партрэты Ганчара, Захаранкі, Красоўскага, Карпенкі, Зайцава, Паляковай, Чаркасавай, Бябеніна і Завадскага.**

# «Наш бізнэс спецыфічны»

Уладальнік аграсядзібы «Марцінова Гусь» **Алесь Белы** — пра рынак экатурызму.

Гісторык Алесь Белы вядомы сваімі даследаваннямі ў галіне картаграфіі. Яшчэ большую славутасць ён набыў дзякуючы традыцыйнай беларускай кулінарыі. Ягоная кніга «Наша страва» ўпэўнена трымаецца ў лідарах продажаў. Аднак галоўны гонар Алеся Белага — адна з найлепшых у краіне аграсядзіб «Марцінова Гусь» на ўскрайку Налібоцкай пушчы. Яна знаходзіцца ва ўтульным месцы на беразе вадасховішча ў вёсцы Люцінка, на радзіме Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Карэспандэнт «Нашай Нівы» паразмаўляў з Алесем Белым пра лёс ягонай справы і перспектывы аграэкатурызму ў Беларусі.

**«Наша Ніва»: Спадар Алесь, як адбіўся крызіс на агратурызме?**

**Алесь Белы:** Вядома ж, крызіс адбіўся. Асабліва складана стала пад канец года. Але ўсё ж спадзяюся, што ўдасца застацца ў плюсе. Ёсць сядзібы, якія спынілі працу, напрыклад, «Над Нёманам», але там прычынай сталі сямейныя абставіны гаспадароў. Наш бізнэс даволі спецыфічны, сядзібу можна лёгка закансерваваць, калі бізнэс не ідзе. Я думаю, што зімой часова закрыюцца многія. Справа ў тым, што канкурэнцыя ўзрасла, зарэгістравацца ў гэтым бізнэсе надзвычай проста. Засталіся і льготныя крэдыты на адкрыццё сядзібы, прычым на ранейшых умовах — пад 5%.

**«НН»: Адпачыць у Вашай сядзібе каштуе не танна… Ці карыстаецца яна попытам?**

**АБ:** Большасць кліентаў шукае самыя танныя варыянты, каб можна было прыехаць і напіцца кампаніяй... Ім дастаткова катэджа пад Мінскам, які фармальна, можа, і лічыцца сядзібай, але па сутнасці ёй не з'яўляецца. Мы прапануем іншы падыход. Я бачу перспектыву ў тым, каб прапаноўваць як мага больш разнастайных паслуг. Напрыклад, турыстычныя аўтобусы, якія праязджаюць па трасе, завітваюць на масавы абед. У дадатак прапануем ім анімацыйную праграму. Валожынскі раён, дзе і знаходзіцца «Марцінова гусь», — край, найбольш развіты ў плане аграэкатурызму. Таму нам працей каардынавацца. Напрыклад, у мяне няма коней, але ў майго суседа, які за 10 км, ёсць. І мае госці могуць паехаць да яго.

**«НН»: Шмат хто кажа, што расійскія турысты літаральна апанавалі Беларусь. На прыкладзе сваёй сядзібы Вы сутыкаецеся з такой з'явай?**

**АБ:** Я атрымліваю проста шалёную колькасць званкоў з Расіі: людзі хацелі б сустрэць у мяне Новы Год. Калі б можна было захаваць усіх гэтых кліентаў, але расцягнуць іх заяўкі па часе, то працы хапіла б на ўвесь год. Наваградні святы — гэта пік, які працягваецца да канца студзеня. Люты і сакавік — моцны спад, як, зрэшты, і лістапад.

**«НН»: Чаму расійцы едуць у Беларусь?**

**АБ:** Сітуацыя з аграэкатурызмам у нашай краіне горшая ў параўнанні з усімі суседзямі, апроч Расіі. Там прапаноў адпачынку мала і яны дарагія. Таму нават з улікам транспартных выдаткаў для масквічоў выгадней прыехаць у Беларусь, чым здымаць катэдж у Падмаскоўі. Прыязджае перадусім сярэдні клас, які, апроч адпачынку, хоча ў якасці бонуса пазнаёміцца з новай культурай. Многія цікавяцца гісторыяй.

**«НН»: Ваша сядзіба знаходзіцца ля Налібоцкай пушчы. Наколькі гэта перспектыўнае месца?**

**АБ:** Пушча патэнцыйна вельмі прывабная. Мая мара — стварыць сталы роварны маршрут праз Налібоцкую пушчу. Каб можна было выехаць з Навагрудка ці Любчы, за дзень-два даехаць да Івянца, Валожына ці Ракава. Пакуль што такімі паездкамі займаюцца толькі роварныя фанаты, для якіх галоўнае — хуткасць. А прапаноў для сямейнага адпачынку мала.

**«НН»: Хто павінен ствараць умовы для такога адпачынку? І ўвогуле, ці шмат дапамагае агратурызму дзяржава?**

**АБ:** Я б не наракаў на дзяржаву, чыноўнікі ставяцца добразычліва. Дапамагаць трэба не бізнэсу, а ўкладаць грошы ў інфраструктуру. Напрыклад, нядаўна ў пушчы ўстанавілі дарожныя знакі. Чыноўнікі паспрыялі таму, каб гэта было па прымальных цэнах. Трэба культываваць раённыя асаблівасці адпачынку, напрыклад, у Палессі, на Браслаўшчыне. У такіх розных рэгіёнах мусяць прадстаўляцца розныя пакеты паслуг.

**Ягор Марціновіч**



Я прымаю проста шалёную колькасць кліентаў з Расіі «

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Колькі каштуе «Марцінова Гусь»?**

Суткі (на 1 чалавека) — $14—17

Харчаванне (сняданак ці вячэра на 1 чалавека) — $5—6

Лазня — $25—60

Дом цалкам — $120—180

## Расія дае чарговы мільярд

Пад заклад 51% акцый «Нафтана».

Сбербанк Расіі і Еўразійскі банк развіцця (ЕАБР) выдзяляюць Беларусі крэдыт у $ 1 мільярд. Крэдыт атрымае «Беларуськалій», але грошы будуць выдзелены пад заклад кантрольнага пакета акцый... іншага панаднага прадпрыемства — наваполацкага «Нафтана».

Паведамленне пра выдзяленне крэдыту супала па часе з сустрэчай у Маскве Лукашэнкі з Мядзведзевым і Назарбаевым, у часе якой яны падпісалі дэкларацыю аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі.

Атрыманне замежных крэдытаў праз «Беларуськалій» улады Беларусі пачалі практыкаваць у ліпені, калі было абвешчана пра $300 мільёнаў ад Азербайджана. Перасланыя грошы адразу ж былі адабраныя ў прадпрыемства і пераведзеныя для справаздачнасці ў золатавалютныя рэзервы краіны.

**ЯМ**

## За мяжу на аўто зараз — раз у восем дзён



Нягледзячы на забароны, на мяжы стаяць шматгадзінныя чэргі.

PHOTO.BYMEDIA.NET

Абмежаванне вывазу паліва становіцца жорсткім.

«Як бы гэта ні было непапулярна, я падпісаў пастанову, каб не раз у пяць, а раз у восем дзён выязджаць за мяжу, за выключэннем тых, хто едзе ў камандзіроўку, выконвае свае функцыянальныя абавязкі або працуе па дамове найму», — растлумачыў прэм'ер Мясніковіч.

Кошт паліва ў Беларусі і ў суседніх краінах ЕС адрозніваецца моцна. У сувязі з падзеннем даходаў людзей улады трымаюць цэны паліва адносна нізкімі, «у выніку нашы нафтазаводы маюць адмоўны баланс з-за таго, што не могуць выручыць неабходную колькасць рублёў, каб ... купіць новыя партыі нафты», — канстатаваў кіраўнік урада.

**ЯМ**

### З пошты Рэдакцыі

## Па грошы прыходзьце са сваімі каробкамі

Учора стаў сведкам сцэны ў банку: акуратна апрануты, пры гальштуку мужчына сталага веку мяняе 4000 даляраў. Відаць, для нейкага вялікага закупу ці выплаты грошай за нерухомасць. А ў касіра грошы ляжаць на стале, гара пачкаў 1-, 5- і 10-тысячных купюр.

«Будзеце браць? Іншых купюр няма», — пытаецца касір. «А куды дзецца? У вас жа курс найлепшы».

«Толькі ж вы мне дасце нейкую каробку на іх?» — пытаецца ён, схамянуўшыся.

Сорам: у суседзяў (немцы, скандынавы, дый славяне ўжо) — гэта сярэднямесячны заробак. А ў нас — «прыходзьце ў банк з каробкай».

**Сяргей Мандроўскі, Мінск**

## Раманчук прэзентаваў чарговы антыкрізісны план

Іншыя незалежныя эканамісты пакуль адмоўчваюцца.

У мінскім элітным гатэлі «Еўропа» адбылася прэзентацыя антыкрызіснай праграмы, якую склаў кіраўнік Навукова-даследчага цэнтра Мізеса, былы кандыдат у прэзідэнты Яраслаў Раманчук. Пікантнасці сітуацыі дадаў адказ эканаміста на пытанне, для каго быў створаны дакумент. «Адкажу проста: для Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Я яму абяцаў — я гэта зрабіў», — сказаў ён. Нагадаем, неўзабаве пасля прэзідэнцкіх выбараў паміж Раманчуком і Лукашэнкам адбылася сустрэча, падчас якой эканаміст паабяцаў даслаць свае прапановы наконт рэформаў.

Што прынцыпова новага ў дакуменце? Нічога. Гэта актуалізацыя ранейшых ліберальных прапаноў Раманчука. Як і раней, эканаміст заклікае цалкам адмовіцца ад рэгулявання цэнаў, правесці прыватызацыю і перайсці да свабоднага рынку.

Каштоўнасць дакумента хіба што ў тым, што ён пакуль з'яўляецца адзіным сфармуляваным альтэрнатыўным меркаваннем. Ніякія іншыя незалежныя эканамісты ці інстытуты сваіх цэласных праграм так і не прадставілі.

**ЯМ**

### Сцісла

**МВФ вычэквае**

Рашэнне адносна візіту ў Беларусь наступнай місіі Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) для перамоў з уладамі аб новай праграме stand-by яшчэ не прынятае. Пра гэта заявіла прадстаўніца МВФ у Беларусі Наталля Калядзіна.

**Мінімальны заробак у Маскве павышаецца да 365 даляраў**

Гэта амаль у чатыры разы болей, чым у Беларусі.

**Даляр і еўра не варушацца**

Па выніках таргоў на Беларускай валютна-фондавай біржы курсы даляра і еўра ў аўторак не змяніліся. Як і ў панядзелак, яны каштавалі 8720 і 11 790 рублёў адпаведна.

**«Мінпласт» прадалі расійцу**

Больш як 90% акцый адкрытага акцыянернага таварыства «Мінпласт» (Мінск) пяройдуць ва ўласнасць грамадзяніна Расійскай Федэрацыі, паведаміла прэс-служба Дзяржкаммаёмасці.

**ЯМ**

# Колькі зарабляюць беларусы ў Венесуэле?

**Штотыдзень беларусы з'язджаюць на працу ў Венесуэлу.**

«Даваць інтэрв'ю нам не рэкамендуюць. А на пытанні аб працы можна адказваць толькі з дазволу». Беларуска Вольга расказала пра свой побыт у Каракасе.

**«Наша Ніва»: Чаму вырашылі паехаць у Венесуэлу?**

**Вольга:** Магчымасць моўнай практыкі. Годны заробак (у Беларусі даволі цяжка знайсці працу з іспанскай мовай у замежнаэканамічнай дзейнасці, а не перакладчыка). У Каракасе ў мяне гадавая дамова з беларускай фірмай. Працую эканамістам.

**«НН»: Шмат было жадаючых выехаць туды на працу? Як праходзіў адбор?**

**В:** Многіх палохае высокі ўзровень злачыннасці ў краіне, асабліва ў сталіцы. Упэўнена, што ва ўмовах цяперашняй эканамічнай сітуацыі, колькасць жадаючых значна павялічыцца, нягледзячы на далёкае знаходжанне краіны і цяжкі клімат.

Я праходзіла адбор вясной. Гэта аказаўся працэс не з лёгкіх. Псіхалагічны тэст, сумоўе на іспанскай мове, комплекснае медыцынскае абследаванне. Наколькі ведаю, цяпер медагляд праходзяць у лечкамісіі і адбор нашмат ускладніўся. Так што краіну пакідае здаровы генафонд. Самі ўрачы пытаюцца, выпісваючы даведкі, а хто тут будзе працаваць.

**«НН»: Вы працуеце разам з венесуэльцамі. Наколькі гэта высока кваліфікаваныя спецыялісты?**

**В:** На будоўлі іх значна больш, чым у офісах, дзе яны складаюць прыкладна чвэрць. На будоўлі за імі патрабуецца пастаянны кантроль. Пунктуальнасцю таксама не вылучаюцца. Я б сказала, што ў іх дзейнічае лозунг: «Да працы трэба ставіцца абыякава!»

**«НН»: А беларусаў шмат у Венесуэле?**

**В:** На маім праекце працуюць каля 50 (15 — у Каракасе, астатнія на будоўлі ў горадзе Барынас). Апошнім часам амаль штотыдзень прыязджаюць новыя спецыялісты — архітэктары, інжынеры, электрыкі — без валодання іспанскай мовай і працуюць праз перакладчыкаў.

**«НН»: Венесуэла — краіна з высокім узроўнем злачыннасці. За сваю бяспеку не баіцеся?**

**В:** Калі прытрымлівацца ўсіх правілаў бяспекі — не хадзіць уначы, не заязджаць у раёны «бар'ё», пажадана не хадзіць з ноўтбукамі і каштоўнымі рэчамі — можна пазбегнуць непрыемных сітуацый. Хаця ад гэтага ніхто не застрахаваны, і выпадкі крадзяжу сярод беларусаў нярэдкія.

**«НН»: Ці ёсць у Каракасе на што траціць грошы?**

**В:** Жыццё ў Каракасе абыходзіцца значна даражэй, чым у Беларусі. Таннае толькі паліва. Бак бензіну можна заправіць на $1, а цану аднаго літра нават ніхто не лічыць. Але праезд у грамадскім транспарце будзе дарагі. Разнастайнасць садавіны здзіўляе. Наведванне музычнага тэатра, пастаноўкі сучаснага мюзікла, у пераводзе на беларускія рублі абыдзецца ў 350 тысяч. Сацыялізм праяўляецца толькі ў свабодным уваходзе ў большасць музеяў.

**«НН»: Ці гатовыя застацца ў Венесуэле на новы кантракт?**

**В:** Хачу вярнуцца ў Беларусь. Дарагая тая хатка, дзе радзіла цябе матка. Відаць, у Венесуэлу я гатовая была б прыязджаць на зіму, каб пагрэцца на карыбскім узбярэжжы. А да пенсіі можна было б і дамок набыць.

**Сяргей Макарэвіч**



**На працу бяруць толькі самых здаровых »**

**Нават хворы Уга Чавэс не змяншае інтэнсіўнасць сустрэч з беларускімі сябрамі. На фота прэзідэнт Венесуэлы з Віктарам Шэйманам.**

---

**Без размаху адзначылі абласныя Дажынкі.**

# «Западалі сняжынкі, а ў Карэлічах «Дажынкі»

«Прыязджай на «Дажынкі» — Карэлічы так адрамантавалі, што не пазнаеш», — запрашалі родныя. І заінтрыгавалі, бо гарадок апошнія гады і без фестываляў увесь час змяняўся.

Цяпер фасады дамоў увабраліся ў яркія колеры. Змянілася цэнтральная плошча, а разам з ёй — адрамантаваны Дом культуры ды іншыя камяніцы. Старыя габрэйскія вулачкі, што паралельнымі шляхамі адыходзяць ад плошчы, зазіхацелі рознакаляровымі сценамі і дахамі дамкоў. Тут, як і даўней, сканцэнтраваны прыватны гандаль.

### «Тут вам не Маладзечна!»

Людзей на плошчы ў святочны дзень мала. Большасць пайшла на канцэрт у Дом культуры. Зусім няшмат і гандлёвых палатак. У адной прадаюць шашлык і беляшы, у другой — цукровую вату. Рэшта гандлюе сувенірамі і вопраткай з мясцовага быткамбіната. Няма ні транспарантаў з віншаваннямі, ні каляровых плакатаў і стэндаў.

«А што так мала палатак?» — пытае жанчына ў гандлярак. Адна адказвае: «Тут вам не Маладзечна! У нас усё працэй». З гэтым цяжка не пагадзіцца, калі параўнаць бюджэты: на карэліцкія «Дажынкі» патрацілі 10 мільярдаў рублёў, на маладзечанскія — 708 мільярдаў.

Іншая гандлярка кажа, што людзей мала, бо «зрабілі свята пад самую зіму». І дадае: «Западалі сняжынкі, а ў Карэлічах Дажынкі!»

Дарэчы, «дажынкі пад сняжынкі» могуць стаць на Гродзеншчыне традыцыяй. Абласныя святы тут плануюць ладзіць у лістападзе ў Дзень сельскай гаспадаркі. І штораз у новым райцэнтры.

### Фасады і двары абласных «Дажынак»

Не абышлося ў Карэлічах і без аўралу. Дзе-нідзе трапляюцца сляды рамонту на хуткую руку. Тыльная сцяна мясцовай гасцініцы нефарбаваная, як і некаторых дамоў.

Насупраць маслазавода стаіць тройка адрамантаваных двухпавярховых дамкоў. Іх «калегі», што хаваюцца ў глыбіні вуліцы, стаяць са старым шыферам на дахах.

Сквер з бюстам героя антыпольскага падполля Мікалаю Арцюху пазбавіўся паловы дрэваў. Гэта, а яшчэ адсутнасць лавак, робіць яго празмерна вялікім і няўтульным.

### А моладзь усё з'язджае

Трэба аддаць належнае раённаму кіраўніцтву, якое не абмежавалася вонкавым прыхарошваннем мястэчка. Пад «Дажынкі» тут акрамя ўсяго адрамантавалі некалькі аддзяленняў раённай бальніцы, гімназію і школу, рэканструявалі кінатэатр, замянілі інжынерныя сеткі. І ўсё ж, гэта не вырашае адной з галоўных праблем рэгіёна.

«Што тут рабіць маладым? Як пражыць на заробак у 700 тысяч?» — пытае жанчына ў сяброўкі. Яна прыйшла правесці дачку-студэнтку на мінскі аўтобус. Моладзь з'язджае ў сталіцу. Утрымаць на месцы многіх маладых жыхароў райцэнтраў накшталт Карэліч могуць добрыя заробкі, а таксама магчымасць знайсці тут занятак па душы па-за працай. Пакуль жа большасць маладых у Карэлічах ні таго, ні другога не бачыць.

**Сямён Печанко, Карэлічы — Мінск**

**У Віцебску адмовіліся ад абласных «Дажынак»**

Сёлета на Віцебшчыне абмежаваліся раённым святкаваннем у Лііозне. На абласныя «Дажынкі» нібыта не хапіла грошай. На Магілёўшчыне таксама святкавалі на ўзроўні раёна, у Мсціславе. На Брэстчыне абласныя «Дажынкі» прымала Бяроза, на Гомельшчыне — Светлагорск.



**Цяпер Карэлічы рознакаляровыя і аптымістычныя.**

СЯМЕН ПЕЧАНКО

---

# «У аўтапарку, як у краіне: фасад прыгожы, а ўсярэдзіне — бардак»

**У рэдакцыю «НН» паскардзіўся кіроўца баранавіцкага аўтобуснага парка.**

«Кіроўцы на іншых прадпрыемствах атрымліваюць не менш за нас, але мы не дровы возім, а людзей. Адказнасць большая», — напісаў у «НН» кіроўца баранавіцкага аўтобуснага парка. Ён піша, што заробкі складаюць каля 2 мільёнаў, іх не падвышалі ад апошняй дэвальвацыі.

«Кіраўніцтва парка займаецца тым, што парадкуе тэрыторыю. Але дакладна, як у краіне: толькі каб звонку ўсё прыгожа, а што ўсярэдзіне бардак — нікога не цікавіць».

Аўтар ліста падкрэсліў, што кіроўцы не могуць страйкаваць. «Праблем шмат, але ці будуць яны вырашаныя?» — задаецца пытаннем кіроўца.

У адміністрацыі парка карэспандэнту «НН» паведамілі, што агучаныя ў лісце праблемы не маюць пад сабой грунту. Там расказалі, што сярэдні заробак кіроўцаў аўтобусаў у кастрычніку склаў каля 2,7 мільёна.

Няма і праблем з рамонтнымі камплектамі і запчасткамі. «Калі хтосьці з кіроўцаў у часе рэйса сутыкаецца з сур'ёзнай паломкай, мы высылаем яму іншы аўтобус, таму ніхто не губляе ў заробках на прастоях», — запэўнілі ў аўтапарку.

**СП**

# Белыя плямы працэсу над меркаванымі тэрарыстамі

Суд скончыўся, а **сумневы засталіся**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

30 лістапада будзе вынесены прысуд па справе Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Але ёсць пытанні, на якія працэс так і не здолеў адказаць.

**1. Як выйшлі на абвінавачаных?** Па версіі, агучанай пасля тэракта, адзін з міліцыянтаў 12 красавіка убачыў чалавека з фотаробата ў краме, калі той купляў гарэлку. І прасачыў за ім. На папярэднім следстве і судзе неаднаразова заяўлялася як Кавалёвым, так і сведкай Пачыцкай, што ў той дзень ніхто з кватэры не выходзіў.

**2. Чаму да Канавалава на першых допытах пасля затрымання не запрашалі адваката?** Атрыманыя паказанні з парушэннем заканадаўства не могуць быць доказамі ў судзе. Чаму дзяржаўны абвінаваўца не прыняў гэта пад увагу?

**3. Чаму Канавалаў і Кавалёў давалі розныя паказанні адносна выбухоўкі ў сумцы?** У іх рознага стану рэчыва, розныя бутэлькі, у аднаго прысутнічае лямпачка, у другога яе няма.

**4. Як у невялікім пакойчыку ў падвале магчыма стварыць хімічную лабараторыю?** Гэта па версіі следства. Адвакат Кавалёва Абразей звярнуў увагу на тое, што для лабараторыі патрабуецца куды большае памяшканне, выцяжка, наяў-насць вадаправода і каналізацыі. У супрацьлеглым выпадку немагчыма атрымаць дзясяткі кілаграмаў выбуховага рэчыва.

**5. Чаму няма адбіткаў пальцаў Канавалава на дзесяці пакетах салетры з яго падвала?** На іншых рэчах ёсць, а на гэтых пакетах адсутнічаюць.

**6. Чаму не было выпрабавана на палігоне выбуховае прыстасаванне, якое на следчым эксперыменце сабраў Канавалаў?** Няма пацвярджэння, што выбухоўка была той самай магутнасці, што і ў метро.

**7. Чаму не знайшлі шматкі сумкі, у якой, па версіі абвінавачвання, узарвалася выбухоўка ў метро?** У такім выпадку, на думку адваката Абразея, няма пэўнасці, што выбухоўка знаходзілася менавіта ў сумцы.

**8. Чаму не адшукалі пульт, з дапамогай якога нібыта быў здзейснены выбух?** У паказаннях Канавалава на папярэднім следстве сказана, што ён выкінуў прыладу ў сметніцу на плошчы Свабоды.

**9. Як на Дзмітрыю Канавалаву, калі ён быў у метро падчас выбуху, не засталося ні выбуховага рэчыва, ні пылу?** Па заключэнні экспертаў, на адзенні абвінавачанага не знойдзена слядоў выбуховага рэчыва, не было яго і ў змывах з твару, носа і на валасах. Пракурор мяркуе, што рэчыва не трапіла, бо ён стаяў за сценкай.

**10. Чаму ў суд не была перададзена першакрыніца з відэазапісамі з метро?** Чаму з відэа зрабілі фільм на дзевяць хвілін?

**Не прагучала адказаў на пытанне пра матывы выбуху »**

**11. І, немалаважна, чаму быў здзейснены выбух? Якая матывацыя?** Канавалаў заяўляў на папярэдніх допытах, як заведзены, — для дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне. Але не мог патлумачыць, што гэта значыць. Чаму чалавек цягам шасці гадоў здзяйсняў выбухі ў Віцебску і Мінску?

**Сяргей Макарэвіч**

## Таямніца фотаробата «тэрарыстаў» разгаданая?

Твар з фотаробата падобны да твару **з запісу камер метро**.



Адразу пасля тэракта ў мінскім метро быў распаўсюджаны фотаробат з меркаванымі тэрарыстамі. Хто на іх?

Пасля таго, як былі затрыманыя падазраваныя, на той фотаробат крыху забыліся, але пытанні засталіся. Паводле абвінавачання, у метро Дзмітрый Канавалаў дзейнічаў адзін. Адкуль тады ўзяліся два партрэты?

Ды і падабенства фотаробатаў да падазраваных умоўнае. Неяк павялося лічыць, што злева (глядзі фота) — Канавалаў (бо ў шапцы). А вось што за другі мужчына выяўлены, застаецца загадкай. Аднак наўрад ці гэта хударлявы з твару Уладзіслаў Кавалёў.

Падчас працэсу адвакат Абразей звярнуў увагу на тое, што відэазапіс з метро паказвае: у адным з эпізодаў запісу камерыназірання ў метро невядомы мужчына нібыта паваротам галавы дае каманду і вядзе за сабой па падземным пераходзе меркаванага тэрарыста. На відэа ёсць некалькі момантаў, калі на твар чалавека трапляе святло. У моцным павелічэнні можна крыху разглядзець яго **(глядзі фота)**.

Ці не той гэта чалавек, які з'явіўся на загадкавым падвойным фотаробаце? Калі так, то, выглядае, фотаробат складаўся на падставе відэазапісу з метро, які і з'яўляецца галоўным доказам абвінавачання. Але чаму гэтага чалавека ніхто не шукае і не згадвае пра яго? Нават калі ён аказаўся побач з Канавалавым выпадкова, важна было б, каб і ён сведчыў у судзе.

**Ігнат Пушча**

## «Мне яшчэ прыйдзецца памілаваць ці не памілаваць» Канавалава і Кавалёва

Хаця Лукашэнка лічыць, што павінна быць **самае жорсткае пакаранне**.

«Мне яшчэ прыйдзецца, хачу я гэтага ці не, падпісаць указ, памілаваць ці не памілаваць», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю на канале «Россия-24», каментуючы прапанову пракурора прысудзіць да смяротнага пакарання Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва.

«Усё наша грамадства перажыло такі шок, — адзначыў беларускі кіраўнік. — Гэта недаравальна, і я, як прэзідэнт, лічу, што павінна быць самае жорсткае пакаранне за падобныя дзеянні. Якая матывацыя? Каб пацешыцца і паглядзець, як будуць гінуць людзі? За гэта трэба адказваць па поўнай праграме».

**СМ**

## Тысячы людзей супраць вынясення смяротнага пакарання

У інтэрнэце (www.thepetitionsite.com) ідзе збор подпісаў супраць магчымага расстрэлу Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Больш за 25 тыс. чалавек падпісаліся за першыя чатыры дні.

«Многія ў Беларусі лічаць, што гэтыя людзі невінаватыя, — гаворыцца ў звароце. — Няма канкрэтных доказаў, што яны ўчынілі тэракт. Калі ласка, падпішыце гэта хадайніцтва і папрасіце сваіх сяброў, каб мы ўсе маглі выратаваць гэтыя жыцці».

Петыцыя будзе накіравана ў ААН, праваабарончую арганізацыю Human Rights Watch і ў іншыя ўстановы. Мэта арганізатараў — сабраць сто тысяч подпісаў.

«Людзі за самае жорсткае пакаранне любых тэрарыстаў, але збіраюць подпісы таму, што яны не вераць гэтаму суду і прад'яўленым доказам. Яны баяцца страшнай памылкі, якіх было шмат у «справе Міхасевіча», напрыклад», — сказаў «Нашай Ніве» чалавек, які прызнаўся ў тым, што паставілі свой подпіс.

# «Дружа, кім ты быў у мінулым жыцці?»

Беларускамоўны праект ад «Аліварыі»: пазітыўны флэш-тэст **для аматараў піва і гісторыі**.




Бровар «Аліварыя» зрабіў для наведнікаў свайго сайта апытанку «Дружа, кім ты быў у мінулым жыцці?».

«Заможным шляхціцам, адважным салдатам ці вядомым шынкаром? — пытаюцца на сайце. — За куфлем смачнага піва ды ў сяброўскай кампаніі лёгка пазнаць, кім ты ёсць цяпер і кім быў у мінулым».

Удзельнікам тэста прапануецца прайсці шэсць выпрабаванняў. Спачатку трэба падрыхтавацца ў дарогу, крыкнуўшы: «Каня мне, каня!»

У другім выпрабаванні– рассмяяцца ворагу ў твар. У трэцім стваральнікі праекта хочуць высветліць, ці «прыклейваўся ты да кожнай спадніцы». Гэта можна зрабіць пры дапамозе свісту. Вось толькі версію для жанчын яшчэ не прыдумалі.

Потым трэба працягнуць як мага болей гук без перапынку, ну і здзьмуць штомоцы пену з куфля піва.

Апошні неабходны крок, каб высветліць, кім жа ты быў, — гэта тэст на шчодрасць. Для гэтага трэба «голасна грымнуць»: «Піва ўсім за мой кошт!»

Ёсць прыклады, як праходзіць гэтыя выпрабаванні, якія з іроніяй агучыў лідар гурта «Палац» Алег Хаменка.

Праходжанне гэтай тэставанкі дасць мноства пазітыўных эмоцый як для аматараў піва, так і гісторыі.

**Зміцер Панкавец**

## «Таямніцы следства»: жорсткія і беларускамоўныя

Міліцыя **непрыязна ставіцца да расейцаў**. Не ведаючы беларускай мовы, не абаронішся ў судзе...




«Таямніцы следства» не такія дынамічныя, як іншыя расійскія крымінальныя серыялы. У пятай і шостай серыі новага сезона дзеянне часткова адбываецца ў Беларусі. А канкрэтней — у беларускай турме.

Сюжэт фільма такі. Журналіст Абелеў атрымлівае заданне — «пранікнуць у вышэйшыя эшалоны беларускай улады».

Па дарозе ў гасцініцу дзяўчына-беларуска падкідае журналісту ў сумку тераін. Таксіст, які падчас паездкі слухае беларускамоўнае радыё (па ім выступае Лукашэнка), скручвае хлопца і перадае яго ў рукі міліцыі.

У турме міліцыянты звяртаюцца да расейца «іностранец» (з непрыязнасцю) і двойчы закідаюць у камеру, чым вельмі радуюць дзябёлых зэкаў-беларусаў. Турма ўся афармленая пабеларуску.

Следчы, які вядзе справу журналіста, сядзіць у кабінеце з таблічкай «месца для допытаў». Ён паведамляе галоўнаму герою, калі той «пагодзіцца супрацоўнічаць са следствам, то атрымае толькі дваццаць гадоў турмы».

Далей пачынаецца нешта з творчасці Дзюма: ампулы з атрутай і з праціяддзем.

У шпіталі з'яўляецца беларускамоўны доктар, які бярэцца лячыць аднаго з атручаных. Ужо са шпіталя вязень змог вырвацца ў Расію.

**Юрась Ускоў**

## Порнаактрыса завалодае «Інтэрам»

Чэшская порнаактрыса Кларыса Леонэ зрабіла нечаканую заяву. Зорка фільмаў для дарослых выказала жаданне валодаць уласным футбольным клубам.

Кларыса плануе стварыць клуб «Інтэр» (Прага), названы ў гонар яе ўлюбёнай міланскай каманды. Нават форма павінна быць такая ж, як у «нэрадзуры»: вертыкальныя сінія і чорныя палоскі.

**Сямён Цыбульскі**



**Фотафакт**



### Студэнты прынеслі ў магазін шэсць кілаграмаў грошай

Заначку з купюраў у 10 і 20 рублёў Яўген з таварышам збіралі цэлы год. Атрымалася 90 тысяч рублёў. Шасці кілаграмаў грошай хапіла на бутэльку шампанскага, 4 літры піва, 2 літры газаванага напою, 3 пакуначкі сухарыкаў і вялікі пачак доўгіх чыпсаў. Касірка пералічвала грошы 40 хвілін.

**«Камсамольская праўда ў Беларусі»**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Глухі Стук

Перш-наперш я маю на ўвазе дзяржаўнага абвінаваўцу на працэсе Канавалава і Кавалёва, пракурора Аляксея Канстанцінавіча Стука. Мяне цікавіць, ці чуў ён уласныя словы, калі патрабаваў расстраляць...

Яшчэ мяне цікавіць, ці чулі свае словы людзі, ад нейкай зухаватай пенсіянеркі да знакамітага артыста, калі праз тэлевізію патрабавалі павесіць,чвартаваць...

Паміж гэтымі патрабаваннямі — час таямнічага следства і судовы працэс. Але яны быццам бы пачулі адзін аднаго — прадстаўнік дзяржавы і прадстаўнікі, так бы мовіць, грамадства.

Павесіць... Чвартаваць... Расстраляць...

Я не ведаю, які будзе канчатковы прысуд, ці пачуе суддзя супрацьлегласці доказаў, безліч вельмі сур'ёзных і кампетэнтных сумненняў, нават ад пацярпелых. Але ўжо сёння можна сцвярджаць: нішто, нават ужо недасяжныя «чарка і скварка», так яскрава не сведчаць аб вялізнай бездані паміж дзяржавай і тым, што па звычцы завецца грамадствам, як гэты судовы працэс.

Насамрэч, прадстаўнікі абодвух бакоў не чуюць адзін аднаго. Насамрэч — глухая дзяржава, глухое грамадства.

Ні дзяржава, ні грамадства не чуюць, над якой маральнай прорвай вісяць апошнія 17 гадоў. Ці не з гэтай глухаты выспеў такі «безматыўны» тэракт?

Можа, пачуюць цяпер, калі над прорвай павіслі два маладыя жыцці?

Можа, хоць цяпер яны пачуюць глухі стук нязгоды са смяротным пакараннем, пратэсту супраць таго, каб дзяржава, абапіраючыся на так званае «грамадскае меркаванне», мела дазвол на забойства і, па сутнасці, сама ператваралася ў злачынцу? На жаль, мала што спрыяе гэтай надзеі.

Ці памятаеце вы, колькі людзей выйшлі на вуліцы Мадрыда, калі адбыўся жудасны тэракт на чыгунцы? Я памятаю: звыш мільёна...

Яны не патрабавалі хутчэй знайсці і смяротна пакараць злачынцаў. Яны вінавацілі дзяржаву за тое, што не здолела прадухіліць забойства, патрабавалі абараніць грамадства ад новых тэрактаў...

Нехта скажа: дык то Еўропа...

Так, Еўропа, што прайшла праз дзве жудасныя вайны. Пры ўсіх аргументах супраць смяротнага пакарання адзін, на мой погляд, найбольш важкі: Еўропа больш не хоча забіваць.

### Можа, пачуюць цяпер, калі над прорвай павіслі два маладыя жыцці? »

Ні ў войнах. Ні на шыбеніцы. Ні на гільяціне...

Нехта ў спрэчках вакол смяротнага пакарання ўзгадае Злучаныя Штаты — дэмакратыя, але ж і там адбіраюць жыццё...

Далёка не ва ўсіх штатах. Ды і да вынясення прысуду часам праходзяць дзясяткі гадоў. Каб не памыліцца... Памыляюцца...

Што ж, там многа чаго засталося ад часоў Дзікага Захаду. У нас — ад 37-га года.

Ад таго «непарушнага адзінства», якое існавала паміж тагачаснымі дзяржавай і грамадствам.

Толькі тады яно дэманстравалася праз трыбуны народных сходаў і мітынгаў. Цяпер — праз дзяржаўнае тэлебачанне.

Насамрэч — праз глухі недавер, глухую абыякавасць, крываду шша і страх.

Ну а калі з аднаго боку рэпрэсіі, агрэсія і хлусня, а з другога — недавер, страх і абыякавасць, адна застаецца надзея — на сумленне асоб.

...Недзе напрыканцы 60-х у Мінску адбываўся гучны працэс над так званымі фарцоўшчыкамі і валютчыкамі. Гучны, праўда, намаганнямі партыйна-камсамольскіх ідэолагаў і КДБ, які вёў следства. Акрамя абвінавачвання ў продажы іншаземцам іконаў ды лапцей, КДБ «шыў» падсудным шпіянаж, нават здраду радзіме. Між іншым, як і за валюту — пагроза расстрэлу...

Як ён круціўся, ціхі непрыкметны следчы з КДБ, бялеў і чырванеў, калі суддзя Вярхоўнага Суда абвяшчаў прысуд, здымаючы адзін за другім «домыслы» следства, пакідаючы толькі тое, што палічыў доказаным у межах тагачаснага заканадаўства.

Між тым, усе газеты выйшлі назаўтра са «шпіянажам»... Акрамя «Знамёнкі» — КДБ забараніў друкаваць артыкул без шпіянажу...

Але ён не здолеў забараніць суддзі заставацца сумленным.

Гэта быў вельмі інтэлігентны, добразычлівы чалавек. Ён так уважліва слухаў кожнага падсуднага, кожнага сведку...

Каб у выніку пачуць сябе і толькі сябе...

Дарэчы, яго звалі Канстанцін Іванавіч Стук.

# Хто і супраць каго сябруе ў беларускім футболе?

**Футбольныя хуліганы нагадалі пра сябе** бойкай на пероне станцыі метро «Купалаўская».



Фанаты «Дынама» лічаць астатнія мінскія клубы штучнымі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сутыкнуліся паміж сабой фанаты брэсцкага «Дынама», што прыехалі ў сталіцу на гульню з «Мінскам», і прадстаўнікі фанацкага руху «Партызана».

Адной бойкай не абмежавалася. Нават узрываліся петарды. У справу быў вымушаны ўмяшацца спецназ. Дзевяць чалавек затрымалі і асудзілі на розныя адміністрацыйныя тэрміны.

Пра фанацкі рух у Беларусі пагадзіліся на ўмовах ананімнасці паразмаўляць прадстаўнікі трох клубаў: «Дынама» (Мінск), «Партызан» і «Гомель».

Апошнім часам бойкі ў фанацкім асяроддзі — не такая пашыраная з'ява. Адзін з фанатаў мінскага «Дынама» кажа: «Міліцыя сустракае яшчэ да пад'езду ў горад ці проста на вакзале. Потым вядуць у апарняк, дзе і знаходзішся да пачатку гульні, нават калі прыехаў раніцай. Пагуляць па горадзе, паглядзець на вядомыя месцы проста немагчыма. Калі і атрымаецца выйсці, то трэба быць вельмі асцярожным, трымацца далей ад міліцыі, не паказваць «ружы» (фірмовыя шалікі каманд)».

З гэтай самай прычыны, фактычна, знікла практыка пасляматчавых «махачаў». «Хулзы» каманд дамаўляліся на роўны бой паміж сабой. Звычайна гэта магло адбыцца дзесьці за горадам ці ў закінутай зоне.

У Мінску найбольшы ажыятаж выклікае супрацьстаянне паміж «Дынама» і «Партызанам» (раней МТЗ-РІПА). Нават сёлета міліцыя ледзь усачыла за гарачымі галовамі перад сустрэчай дублюючых каманд. Калі б бойка ўсё ж пачалася, то ў ёй бы ўзяло ўдзел больш за 200 чалавек.

Тут ідзе барацьба не толькі за гонар любімага клуба, але і з ідэалагічных прычын. За МТЗ балеюць людзі левых, анархісцкіх поглядаў, за «Дынама» — правых. «Спачатку гэта была вострая канфрантацыя на глебе нашага супрацьстаяння ідэям расізму, якія дамінавалі ў фанацкай асяроддзі. З людзьмі, якія прапагандуюць дэструктыўныя ідэі, няма і не можа быць ніякага прымірэння», — кажа фан МТЗ.

Яшчэ «дынамаўцы» сябруюць з прадстаўнікамі «Маладзечна» і «Асіповічаў». Затое люта ваюць з «Дняпром» (яны яго называюць свіннямі) і «Гомелем» (бамжы). «З БАТЭ ў нас нармальная дружба, — з нейкай доляй скепсісу кажа фанат мінскага «Дынама». — З «Нёманам» ні тое, ні сёе. Казаць пра «Мінск», «Нафтан» ці «Віцебск» увогуле не выпадае, бо там вельмі мала людзей».

У хаўрусніках МТЗ-РІПА ходзяць «Белкард», «Ліда», «Рудзенск». Фаны жодзінскага і мінскага «Тарпеда» таксама знаходзяць паміж сабой агульную мову.

**Як жартаўліва называюць адзін аднаго фанаты беларускіх клубаў**

**БАТЭ** — батоны

**«Шахцёр»** — краты

**«Гомель»** — бамжы

**Мінскае і брэсцкае «Дынама»** — мусары

**«Белшына»** — жыды

**«Тарпеда»** — педы

**«Нафтан»** — мазута

**«Нёман»** — алені

**«Віцебск»** — паравозы

**«Мінск»** — прастытуткі

**«Дняпро»** — свінні

**Кароткі слоўнік фаната**

**А.С.А.В.** — усе мянты ўблюдкі

**Дэрбі** — сустрэча каманд з аднаго горада

**Кузьмічы** — асноўная маса людзей, што прыходзіць на стадыён, якія нічога не разумеюць у фанатызме

**Махач** — бойка

**Ружа** — шалік з атрыбутыкай клуба

**Сабака** — электрычка

**Трафей** — забраны ў ворагаў шалік, сцяг

**Фірма** — групоўка фанатаў

**Хапун** — масавы арышт

**Хулз** — хуліганы

Прычым, нярэдка мовай перамоваў служыць беларуская. Беларускамоўныя фанацкія гасцёўні ёсць у «Дынама», БАТЭ, «Гомеля», МТЗ-РІПА, мінскага «Тарпеда». Шмат у каго ёсць «ружы», расцяжкі, стыкеры па-беларуску, з Пагоняй, бел-чырвона-белымі сцягамі.

Бывае, фан-групоўкі ідуць на канфлікт з кіраўніцтвам клуба, пасля чаго здараюцца публічныя «разводы». Як тое было ў свой час з фанамі БАТЭ. Цяпер барысаўскія хлопцы якраз і займаюцца тым, што спрабуюць зноў аб'яднацца.

На выязныя матчы ад фанатаў мінскага «Дынама» выбіраецца ад 200 да 1000 чалавек, у залежнасці ад горада і важнасці сустрэчы. Іншыя каманды такім пахваліцца не могуць.

Напрыклад, салігорскі «Шахцёр» стабільна добра выступае ў нацыянальным першынстве, але ў фан-сектары ў іх не болей за 100—200 чалавек. А вось гомельская тарсіда літаральна за некалькі сезонаў заўважна вырасла. «Моцны штуршок даў вылет у першую лігу, — дзеліцца фанат «Гомеля». — На дэрбі з ДСК прыйшло 500 фанатаў, а на фінал Кубка сёлета выязджала 2000 чалавек».

У суботу «Гомель» атрымаў важную перамогу над мінскім «Дынама», але фан-сектара на стадыёне не было. Справа ў тым, што людзей, якія актыўна падтрымліваюць «Гомель», папрасілі зарэгістравацца, яны адмовіліся тое зрабіць. І нават зладзілі байкот. Тым самым фанаты праяўляюць і сваю грамадзянскую пазіцыю.

Заўсёды ёсць рызыка атрымаць па гарбах не толькі ад прадстаўнікоў варагуючага клуба, але і ад спецназа. Як гэта было нядаўна ў Бабруйску з фанамі «Дынама». Праваахоўнікам падалося, што яны надта разняволена сябе паводзілі.

Фанацкая субкультура стала неад'емнай часткай жыцця многіх вялікіх гарадоў. Супрацьстаянне «хулзаў» шатландскіх «Хіберніана» і «Хартса» выдатна апісаў Ірвін Уэлш, лонданскіх «Чэлсі» і «Мілуола» — Джон Кінг. У кнігах Архана Памука то там то тут з'яўляюцца апісанні барацьбы вялікай стамбульскай тройкі — «Галатасарай», «Фенербахчэ», «Бешыкташ».

Беларусі далёка да такіх грандаў, але свае «фанацкія войны» ў нас таксама маюцца.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Жодзінскія фанаты так сустрэлі гасцей з Магілёва.










**Нацыянальная атрыбутыка фанатаў**

Герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг сустракаецца на «ружах», банерах, стыкерах асноўных беларускіх клубаў. Вось толькі на стадыён з імі не пускаюць.

# Тры смерці за адну дзяўчыну

**Крывавая драма разыгралася ў Мазыры.**

Блізу 3-й ночы 20 лістапада каля ігральнага клуба Good Luck 777 мужчына з паляўнічай стрэльбы застрэліў двух маладзёнаў. А сам патрапіў пад колы «Мерсэдэса».

БелаПАН прыводзіць адну з версій інцыдэнту са спасылкай на раённую пракуратуру. Нейкая дзяўчына адпачывала ў кампаніі хлопцаў. Яна паскардзілася ім, што раней яе зняважыў мала-

**Гісторыя як з кніжак »**

ды чалавек. Яе спадарожнік пазваніў крыўдзіцелю на мабільны і прапанаваў «пагаварыць па-мужчынску». Сустрэчу прызначылі каля клуба.

Абаронца не адважыўся прыехаць адзін і прапанаваў падтрымаць яго 47-гадоваму мужчыну, рабочаму будаўнічай арганізацыі. Той, у сваю чаргу, прыхапіў незарэгістраваную паляўнічую стрэльбу, каб «папалохаць».

У прызначаным месцы сварка паміж хлопцамі 1984 і 1987 г.н. перарасла ў бойку. Тады мужчына са стрэльбай выскачыў з аўтамабіля і зрабіў нібыта хаатычныя выстралы. Але кулі трапілі ў абодвух хлопцаў. Адзін з іх памёр на месцы, другі, не прыходзячы ў прытомнасць, сканаў у бальніцы.

Кіроўца «Мерсэдэса», які прывёз на месца сустрэчы кампанію, пачуўшы стрэлы, спалохаўся і вырашыў з'ехаць. Калі ён паспрабаваў рвануць з месца, то збіў мужчыну, які страляў. Гісторыя нібыта з кніжак.

Пракурор зазначыў, што ўсе ўдзельнікі канфлікту — раней не судзімыя. У мужчыны, што застрэліў небарак, раней міліцыя канфіскоўвала дзве незарэгістраваныя гладкаствольныя стрэльбы. Кіроўца аўтамабіля ўжо затрыманы.

Маладым чалавекам, які памёр у бальніцы, аказаўся 24-гадовы Алег П. «НН» датэлефанавалася да яго брата Сяргея. Мужчына займаўся арганізацыяй пахавання, але выказаўся пра смерць Алега. «Чалавек быў цудоўны... Выйшаў пакурыць. Там былі нейкія разборкі. Яго пераблыталі і застрэлілі». Больш ён не стаў нічога каментаваць.

Крымінальная справа заведзена па ч. 2 арт. 139 КК РБ (забойства).

**Кастусь Матушыч**



**Алег П., па словах сяброў, быў спакойным і ураўнаважаным.**

**Яго пераблыталі і застрэлілі »**

# Браслаўская міліцыя сканфіскавала з краязнаўчага музея кулямёт «Максім»

**Музей трапіў пад аперацыю «Арсенал» — добраахвотную здачу нелегальнай зброі дзяржаве.**

Экспазіцыя часоў Другой сусветнай вайны, якая захоўвалася ў зале з сігналізацыяй, цалкам апынулася ў Браслаўскім РАУСе. Скарыстацца такой зброяй немагчыма ў прынцыпе — усе механізмы з яе папярэдне выдаленыя. Гэта ўсё адно, што паспрабаваць праехацца на мінскім танку-«вызваліцелю», што стаіць ля Дома афіцэраў.

Сярод канфіскаванай у Браславе зброі ёсць і ўлюбёнец публікі, кулямёт «Максім», ля якога заўжды фатаграфаваліся турысты і жыхары Браслава.

«21 адзінка зброі, — кажа дырэктар браслаўскага музейнага аб'яднання Аляксандр Панцялейка. — Аднак нам вернуць яе тады, калі ў нас будуць дакументы на зброю. Уся музейная зброя непрацоўная — гэта агульнавядома, мы прад'явілі дакументы, якія пацвярджаюць гэта. Аднак высветлілася, што да нас патрабаванні, як да паляўнічых, — уся зброя мусіць мець афармленне».

У Браслаўскім РАУСе інфармацыю пацвердзілі, аднак зброя ўжо паспела пераехаць ва Упраўленне ўнутраных справаў Віцебскага аблвыканкама. Вернуць яе ў Браслаў, калі музей аформіць дакументы. «Музею патрэбна ліцэнзія дзяржаўнага ўзору, — кажа начальнік браслаўскай міліцыі Вячаслаў Грышчанка. — У любым выпадку гэта зброя наразная, нават не паляўнічая, на наразную зброю абавязкова патрэбна ліцэнзія.

А тое, што яна не працоўная... Ва ўмелых руках нашага народа і палка можа стрэліць.

Такі самы рэйд праводзіўся па ўсіх музеях, нават школьных: туды ж прыносяць усякае — нават гранаты. Гэта агульнарэспубліканская праграма — ва ўсёй краіне праводзяцца праверкі, і ў музеях у тым ліку. Уся зброя знаходзіцца на адказным захаванні. Як толькі будзе ліцэнзія, мы адразу зброю прывязём самі.»

**Юрась Ускоў**

# У Мінску «Фальксваген» упаў на пешаходаў і забіў жанчыну

**Яе дачка і ўнучка трапілі ў бальніцу.**

Трагедыя здарылася 16 лістапада ў новым мікраараёне на ўскраіне Мінска. Аўтамабіль «Фальксваген» ехаў па вуліцы Каменнагорскай. Відавочцы кажуць пра перавышэнне хуткасці.



AUTO.ONLINER.BY

У пэўны момант легкавік занесла і ён ударыўся аб бардзюр. Акурат у гэтым месцы дарогу пераходзілі пешаходы — 45-гадовая жанчына, яе 25-гадовая дачка з 2-месячным дзіцём у калясцы. На іх і павалілася машына, перавярнуўшыся пасля сутыкнення з бардзюрам. Старэйшая жанчына загінула на месцы, яе дачка з унучкай з траўмамі трапілі ў бальніцу. 2-месячнай дзяўчынцы пашчасціла: ад удару люльку з дзіцём выкінула на газон, і гэта ўратавала ёй жыццё.

Пазней высветлілася, што легкавіком кіраваў 20-гадовы жыхар Любаншчыны, які працуе на будоўлі ў Мінску. Ён атрымаў цяжкія траўмы. Ягонаму пасажыру пашчасціла больш. Паводле папярэдняй версіі, кіроўца не справіўся з кіраваннем».

**СП**

## In memoriam

# Валерый Раеўскі

**19 лістапада на 73-м годзе жыцця пайшоў рэжысёр Купалаўскага тэатра, народны артыст Беларусі Валерый Раеўскі.**

Ад 1967 Валерый Мікалаевіч працаваў у Тэатры імя Янкі Купалы. Ад 1973 — галоўным рэжысёрам, а ад 1991 — мастацкім кіраўніком. 31 снежня 2008 ён саступіў месца Мікалаю Пінігіну.

Першы спектакль Раеўскага «Хачу быць чэсным» (паводле У. Вайновіча) быў забаронены, а наступная яго пастаноўка «Што той салдат, што гэты» Брэхта робіць імя рэжысёра вядомым.

Ён паставіў на сцэне Купалаўскага больш за 35 спектакляў па творах Шэкспіра, Гогаля, Астроўскага, Макаёнка, Крапівы, Дударава, Матукоўскага...

Доўгі час Раеўскі, з'яўляўся прафесарам Беларускай акадэміі мастацтваў і выхаваў цэлую пляяду акцёраў і рэжысёраў.



Пахавалі Валерыя Раеўскага на Усходніх могілках Мінска.

**АГ**

# Элеанора Вецер

**18 лістапада пайшла з жыцця Элеанора Вецер, даследчыца мастацтва і архітэктуры Беларусі.**

Яна нарадзілася ў маі 1932 у сям'і настаўнікаў, 9 класаў скончыла ў сівым Барысаве над Бярэзінай, а дзесяцігодку — у старасвецкім Урэччы, куды пераявілі працаваць яе бацькоў.

Пасля скančэння гістфака БДУ ў 1957 Элеанора Вецер звязала лёс з Нацыянальным мастацкім музеем. Ад 1968 яна з аднадумцамі-мастакамі рушыла ў вандроўкі па памятках даўніны. Выпраўляліся ў экспедыцыі за ўласны кошт, збіралі і ратавалі ўнікальныя старажытныя абразы і скульптуры. Элеанора Вецер стаяла ля вытокаў стварэння акадэмічнага Музея старажытнабеларускай культуры.

Яна прачытала безліч лекцый, першая ўвяла ў агульнасаюзны навуковы ўжытак паняцце беларускага рэнесансу ў выяўленчым мастацтве. Была дамаю сэрца для рыцараў нашае культуры. Яе сябрамі, калегамі, вучнямі былі Уладзімір Караткевіч, Зянон Пазняк, Тамара Габрусь, Уладзімір Дзянісаў, Алег Трусаў...

Найважнейшай часткаю яе грамадскага і прафесійнага жыцця была дзейнасць у Таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры. І сёння мы маем выдатны



Музей старажытнабеларускай культуры, багата анталагічных тэкстаў па гісторыі нашае культуры і светлую памяць пра мужную жанчыну і сумленную даследчыцу, самаадданую патрыётку Беларусі — Элеанору Вецер.

**Сяргей Харэўскі**

# Блокбастар «Жыве Беларусь!»

У Польшчы пачалі здымаць фільм аб прыгодах беларускага апазіцыянера. З бюджэтам **2 мільёны даляраў**.





Ролю Франака выканае рэпер Vinsent »

У Варшаве вось ужо некалькі дзён працягваюцца здымкі мастацкага фільма пра Беларусь. Інтарэс да яго айчыннай аўдыторыі не выклікае сумневаў. Яшчэ б — у фільме здымаюцца беларусы, хоць ён і разлічаны перадусім на заходняга гледача.

Здымкі пачаліся ў атмасферы паранаідальнай сакрэтнасці, аднак пасля публікацыі матэрыялу пра стужку на сайце nn.by, стваральнікі фільма былі вымушаныя раскрыць карты.

У аснове стужкі з пілотнай назвай «Мірон. Жыве Беларусь» — лёс нашага маладога суайчынніка. Прабегшыся вачыма па сцэнары, няцяжка здагадацца, што гэта па-мастацку апрацаваная гісторыя жыцця... Франака Вячоркі, якая каштуе $2 мільёны. Тут будуць і яго прыгоды ў войску, і нават сцэна ў ложку, калі супрацоўнікі ваенкамата выцягваюць героя з абдымкаў дзяўчыны.

### Кіно ёсць, але яго няма

Зняць фільм задумаў польскі рэжысёр Кшыштаф Лукашэвіч. Гэта ягоная другая праца, летась выйшла у пракат стужка «Лінч». А раней Лукашэвіч працаваў асістэнтам рэжысёра, напрыклад, дапамагаў Ежы Гофману здымаць серыял «Агнём і мячом».

Галоўную ролю выконвае беларускі рэпер Vinsent (Зміцер Папко). У апошнія месяцы ён стаў самым запатрабаваным акторам у краіне. Лічыце самі — адна з галоўных роляў у серыяле Андрэя Курэйчыка «Вышэй за неба», цэнтральная фігура ў фільме «Беларуская мара» Кацярыны Кібальчыч, а цяпер яшчэ і фільм у Варшаве.

Ягоная партнёрка — 31-гадовая полька Караліна Грушка. У сваёй акторскай кар'еры нараджэнка Варшавы паспела засвяціцца нават у стужцы Міхаіла Пташука «У жніўні 44-га», дзе выканала ролю Юліі. Іх пасцельная сцэна была знятая ў адзін з першых дзён здымкаў.

У ролях другога плана чакаецца з'яўленне як прафесійных акцёраў з беларускіх тэатраў, напрыклад, з Купалаўскага, так і варшаўскіх студэнтаў.

Героі размаўляюць у фільме як па-беларуску, так і парасійску. Гэта зроблена не толькі для таго, каб больш праўдзіва паказаць сітуацыю ў нашай краіне. Рэч у тым, што ў фільме будуць задзейнічаныя расійскія акторы, якім беларуская гаворка будзе даваццa дрэнна. Бюджэт фільма дазволіў запрасіць і дарагіх «зорак». Перамовы вяліся, напрыклад, з вядомым акторам Сяргеем Гармашам.

### Колькі трэба на фільм

Адкуль жа ўзяліся грошы на такі дарагі праект? Фундатарам фільма выступіла Міністэрства культуры Польшчы, здымае ж кіно дзяржаўная кінастудыя.

Запытаны бюджэт фільма складаў $1,9 мільёна. У Польшчы рашэнне пра выдзяленне сродкаў прымае спецыяльная мастацкая рада. З шасці экспертаў, якія вырашалі, ці выдаваць грошы, чацвёра выказалі меркаванне, што фільм атрымаецца добрым, адзін назваў яго сярэднім і яшчэ адзін — слабым.

Стваральнікі фільма пакуль не раскрываюць каштарысу. Vinsent нават даводзіў, што не ведае памер свайго ганарару.

Два мільёны даляраў — гэта многа ці мала? Напрыклад, «Брэсцкая крэпасць», знятая за сродкі саюзнай дзяржавы, каштавала $8,5 мільёна. Леташняя «Масакра» Андрэя Кудзіненкі мела бюджэт $1,5 мільёна, а «Ваўкі» Аляксандра Колбышава абышліся ўсяго ў мільён далярaў.

Здымкі ў Варшаве пачаліся нядаўна, таму прадказваць, калі фільм стане даступным шырокаму гледачу, пакуль рана. У любым выпадку, з'яўленне яго ў беларускім пракаце малаверагодна. Хутчэй, яго чакае лёс мінулага фільма пра Франака Вячорку «Урок беларускай мовы», які сабраў некалькі міжнародных узнагарод, але беларусы змаглі ўбачыць яго толькі ў інтэрнэце і на дысках.

**Ягор Марціновіч**

**Хто такі Франак Вячорка**

Франак — сын былога старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі. Быў сябрам партыі, узначальваў «Моладзь БНФ», аднак пасля быў выключаны. Цяпер у аргкамітэце «Беларускага руху».

Займаўся культурніцкімі праектамі — выдаваў дыскі беларускіх выканаўцаў, дубляваў фільмы на беларускую мову. Быў выключаны з факультэта журналістыкі БДУ за нібыта няздадзеныя экзамены, хоць насамрэч у той час адбываў адміністрацыйны арышт.

У 2009 быў узяты ў войска. Пасля камісавання з'ехаў за мяжу, каб працягнуць адукацыю. Навучаецца ў Варшаўскім універсітэце і з'яўляецца каардынатарам прамоцыі тэлеканала «Белсат».



Галоўную жаночую ролю выконвае полька Караліна Грушка.

## Што здымаюць на «Беларусьфільме»

Галоўная кінастудыя краіны здымае **шэсць стужак**.

**«Паляванне на гаўляйтара»**. Чарговае кіно на ваенную тэматыку, экранізацыя падрыхтоўкі забойства гаўляйтара Кубэ. У галоўных ролях серыяла здымаюцца расійскія зоркі Анастасія Заваратнюк і Марыя Машкова.

**«Снайпер-2. Тунгус»**. «Невялікая савецкая дыверсійная група выконвае складанае і адказнае заданне — захапіць дакументы з апошнімі дырэктывамі Гітлера». Фільм зноўтакі расійскі, хоць сярод актораў ёсць і беларусы — напрыклад, Анатоль Кот.

**«Спадчына»**. Кароткаметражны дакументальны фільм пра жыхароў вёскі Неглюбка на Веткаўшчыне, якая слаўная сваімі тканымі ручнікамі. Стужка ствараецца паводле сцэнарапераможцы моладзевага конкурсу.

**«Летапіс у промнях святла»**. Дакументальнае кіно, прысвечанае фотамастачцы Соф'і Хамянтоўскай, якая ў 1920—1930-я шмат здымала Палессе і Пінск.

**«Тыя, хто спявае над возерам»**. Гісторыя настаўніцы гісторыі з Дрысвятаў, якая захоўвае музыку і песні свайго краю.

**«Казкі старога піяніна»**. 13-хвілінны анімацыйны фільм пра кампазітара І.С.Баха.

**ЯМ**

**Ці трэба вялікія грошы, каб зняць добры фільм?**

Тэрмін «малабюджэтнае кіно» не мае дакладнай расшыфроўкі: існуюць відовішчныя фільмы, для якіх і 20 мільёнаў — гэта звышнізкі бюджэт.

Зразумела, што польскі фільм пра Франака Вячорку не будзе арт-хаусам, хутчэй гэта будзе папсовая гісторыя, таму параўноўваць яго варта менавіта з такімі фільмамі.

«НН» прыводзіць ТОП-3 малабюджэтных фільмаў, якія апынуліся касава звышпаспяховымі.

**1. «Ведзьма з Блэра»**. Фільм жахаў, які здымаўся на аматарскім абсталяванні цягам васьмі дзён суполкай незалежных амерыканскіх кінематаграфістаў, меў бюджэт у $22 000. У фільме няма спецэфектаў, няма музыкі, ён стылізаваны пад аматарскую дакументальную стужку. Касавы збор «Ведзьмы» склаў $248 млн, а фільм атрымаў некалькі прэстыжных прэмій, сярод якіх — «Моладзевая ўзнагарода» Канскага фестывалю.

**2.«Выхад дракона»**. Класічны фільм з Брусам Лі ў галоўнай ролі быў зняты ў 1973 годзе, яго бюджэт склаў $850 тысяч. Апошні фільм з удзелам Лі зараз унесены ў спіс «знакавых для культуры» ў ЗША. Яго зборы перавысілі $90 млн.

**3. «Рокі»** — адзін з фільмаў, які ператварыў Сільвестра Сталоне ў зорку сусветнага кінематографа, меў бюджэт у сціплы мільён далярaў. Але гісторыя баксёра трымаецца на хвалі папулярнасці ужо 35 гадоў. Касавы збор па свеце склаў болей за $117 млн. Для параўнання, апошні фільм серыі меў бюджэт $24 млн.

**ЮУ**

### Сціcла

**Анатолю Вярцінскаму — 80**

18 лістапада паэту Анатолю Вярцінскаму споўнілася 80 гадоў. Ён нарадзіўся ў 1931 г. у Дзямешкаве Лепельскага раёна. Найлепшыя свае гады аддаў газеце «Літаратура і мастацтва». Узначальваў яе ў час перамен. Менавіта ў тым «ЛіМе» прагучала праўда пра Курапаты і савецкія злачынствы. Вярцінскі быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання.

**National Geographic прызнаў найлепшым беларускага фатографа**

У фотаконкурсе амерыканскага часопіса National Geographic, прысвечаным экалогіі, адным з пераможцаў стаў фатограф з Гомеля Павел Церашковец. Ён перамог у з фотаработай No Balance, зробленай некалькі гадоў таму ля ЦЭЦ-4 у Мінску. Церашковец супрацоўнічае з беларускімі, украінскімі і расейскімі глянцавымі часопісамі.

**Багдановіча слухалі стоячы**

Да 120-й гадавіны Максіма Багдановіча ў Горках адбылася вечарына. Яе ініцыяваў мясцовы прадпрымальнік, сябра КХП-БНФ Віктар Каралькоў. Яго падтрымала адміністрацыя раённага ДК, у якім і праходзіла вечарына. А напярэдадні дзесяць мясцовых бізнэсоўцаў абвясцілі акцыю: хто будзе мець квіток з імпрэзы, атрымае зніжку на іх тавары і паслугі. Паслухаць вершы ды песні на словы Багдановіча прыйшло больш за пяцьдзясят чалавек.

**СМ**

# Хто і куды вядзе Беларусь?

**Нядаўна ў мяне адбылася размова з маім старым знаёмым, супрацоўнікам КДБ.**

Калі я выказваў свае погляды даволі блізкаму мне чалавеку, які займае далёка не апошнюю пасаду ў КДБ, ён вельмі ўважліва мяне слухаў, а калі я скончыў, змяніўся ў твары і са строгай інтанацыяй, быццам на допыце, спытаў мяне: «Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? Хто табе гэта ўсё расказаў?»

Я яму адказаў, што мне і расказваць не трэба, для мяне гэта ўсё і так відавочна. Тады ён супакоіўся, уздыхнуў і сказаў: «Усё правільна ты намысліў. Толькі я табе гэтага не казаў!» Хай мой таварыш мяне прабачыць, але падзяліцца гэтым з грамадскасцю я проста абавязаны.

На карысць каго працуюць нашы спецслужбы? Тое, што не на карысць народа, — факт відавочны. І ўсё ж для каго яны так стараюцца? Тут усё залежыць ад таго, пра якія менавіта органы ідзе гаворка. Пракуратура, дзяржкантроль — чыстыя выканаўцы, самі нічога не вырашаюць. МУС — чорнарабочыя, якія спрабуюць выслужыцца перад цяперашнім кіраўніком дзяржавы ўсімі мажлівымі і немажлівымі спосабамі, не зважаючы на нормы маралі і гуманізму.

Усё значна больш складана з КДБ. Каго абараняюць яны? Якую мэту пераследуюць? Чаму дзейнічаюць менавіта так?

КДБ супраць, каб Беларусь збліжалася з Еўрасаюзам. Усё цяперашняе кіраўніцтва дадзенага органа навучалася ў Расійскай Федэрацыі.

Калі падумаць, то сапраўды: якая ім розніца, як звацца, КДБ ці ФСБ, галоўнае, каб плацілі, дарэчы, у ФСБ аклады вышэйшыя.

Нейкая напружанасць заўсёды прысутнічала ў адносінах паміж МУС і КДБ. Магчыма, віной усяму дух суперніцтва або барацьба за лідарства. Але калі першыя спрабуюць выслужыцца перад цяперашняй уладай, то другія працуюць на перспектыву.

**Якая ім розніца, як звацца, КДБ ці ФСБ, галоўнае, каб плацілі.**

Падчас «акцый маўклівага пратэсту» людзі ў цывільным (МУС) выхоплівалі з натоўпу чалавека і сілай запіхвалі яго ў аўтамабіль — наўпростае парушэнне Канстытуцыі, Крымінальнага і Грамадзянскага кодэксаў, не кажучы ўжо пра правы чалавека. У гэты час падобныя такія ж людзі ў цывільным з камерамі (КДБ) здымаюць усё на відэа, але (увага!) не ўмешваюцца.

Хай прабачаць мяне за шчырасць апазіцыйныя сілы, але, зірнуўшы аб'ектыўна на сітуацыю ў краіне, можна зрабіць выснову, што ўлада зменіцца хутчэй шляхам унутранага перавароту, чым пры дапамозе іх дзейнасці. Уплыў КДБ імкліва расце, і дзенідзе ён ужо пачынае дыктаваць свае ўмовы (выкрыццё і арышты высокапастаўленых асобаў).

Цяперашнія рэаліі нейкія сумныя. Але будзем разам спадзявацца на лепшае, а лепш разам будзем імкнуцца да светлай будучыні нашай краіны.

**Пятро О.**

## «Я была на Народным сходзе»

**Гэтай падзеі не перашкодзілі адбыцца ні арышт арганізатараў сходу, ні шматлікія прадстаўнікі спецназа, якія перакрывалі падыходы да пляцоўкі сходу.**

Функцыі кіраўніка сходу ўзяла на сябе далікатная маладая жанчына, неабыякавая да лёсу свайго народа, Галіна. Яна расказвала прысутным пра іх правы, спасылаючыся на Канстытуцыю Беларусі, заклікала выступіць за дэмакратызацыю Выбарчага кодэкса.

Плошча была літаральна нашпігаваная супрацоўнікамі КДБ, якія не даравалі Галіне яе адвагі і пасля заканчэння груба схапілі яе і заштурхалі ў машыну без нумарных знакаў на вачах у здзіўленых мінакоў. Іх не спынілі праклёны, якія сыпаліся на іх галовы ад абураных жанчын, што сталі сведкамі гэтага варварства.

Думаю, ніякімі рэпрэсіямі ўлада не ўтрымае хваляў пратэстаў супраць зніжэння жыццёвага ўзроўню і бяспраўя народа, якія пракатваюцца па ўсіх гарадах Беларусі.

Чаму народ Беларусі бяспраўны?

— Бо вакол дзяржаўнай кармушкі прыстроілася шмат баязліўцаў, якія баяцца страціць кавалак тлустага пірага.

— Бо заканадаўства і юрыдычная практыка краіны маюць рэпрэсіўны характар у адносінах да грамадзян, а не абараняюць іх інтарэсы.

— Бо са старонак і экранаў дзяржаўных СМІ выліваюцца патокі дэзінфармацыі, замбуючых грамадзян.

— Бо ў краіне няма падзелу ўладаў, прадугледжанага Канстытуцыяй Беларусі.

— Бо турмы краіны запоўненыя вальнадумнымі людзьмі.

**Людміла Клімковіч, філосаф, удзельніца сходу**

## Павінна быць іначай

**Знаходжуся пад вялікім уражаннем ад таго, што адбылося.**

Звычайны восеньскі дзень. Дзесьці а палове на 12-й заходжу ў краму. Усё адбываецца вельмі хутка.

У чарзе, як звычайна ў гэты час, большасць людзей сталага ўзросту. І тут раптам дзядуля апускаецца на зямлю. Яму дрэнна. Адной рукой трымаецца за касавы стол, а іншай хапаецца за касіра. Маладая дзяўчына спыняе працу і разгублена застывае ў нямым маўчанні з працягнутай рукой.

Першай спахапілася бабуля каля мяне:

— Мужчыны! Мужчыны, дапамажыце!

— Лепш хай ляжыць, мо ў яго што з сэрцам, — адказаў патэнцыйны ратавальнік, накіроўваючыся да алкагольнага аддзела.

Зразумеўшы, што дапамогі ад моцнага полу не дабіцца, паказваючы на «адміністратара», пышную жанчыну гадоў за 40, якую, здавалася б, каб і бомбы падалі, не вывесці з раўнавагі і не заставіць рухацца, бабуля прысаромела:

— Чаго стаіш, рохля?! Тэлефануй у хуткую! Што глядзіш, усе праз касу ходзім, ніхто нічога не ўкрадзе!

А дзядуля, чырвоны, з шырока расплюшчанымі вачыма, поўнымі слёз, ляжачы на падлозе і не маючы сілы падняцца, перабірае ў руках свае капейчыны, і тут зверху яму перадаюць яшчэ ці то яго рэшту, ці тое, што ён ужо паспеў аплаціць у касу.

Не ведаю, ці прыехала хуткая, ці жывы гэты дзядуля. Не ведаю, хто тут вінаваты і што няправільна. Але ўпэўненая, што павінна быць іначай. Патрэбныя людзі не толькі для кантролю і здзеку, але і для дапамогі і абароны. Мы хочам адчуваць бяспеку, павагу, спакой і ўпэўненасць. Праблема не толькі ў тым, што мы не ведаем, як дзейнічаць, але ў агульнай людской абыякавасці, нейкай сардэчнай скамянеласці, счарсцвеласці, безыніцыятыўнасці, імкненні хавацца за спіны іншых.

**ШШ, mail.ru**

Піша **Павел Севярынец**.

# Беларуская глыбіня.
# Шэсцьсот тамоў Крашэўскага

*Помыслы ў сэрцы ў чалавека —*
*Глыбокія воды,*
*Але чалавек разумны*
*Вычэрпвае іх.*
***Выслоўі, 20:5***

Вуліцы Крашэўскага ў Пружанах, вядома, няма. Анягож: знакаміты зямляк, пісьменнік, унесены ў Кнігу рэкордаў Гінэса як самы пладавіты ў свеце аўтар, што напісаў каля шасцісот(!) тамоў мастацкай літаратуры і публіцыстыкі; выдавец і рэдактар дзясятка газетаў і часопісаў, мастак, этнограф і палітычны вязень, паводле твораў якога Вялікую Літву і Рэч Паспалітую ўяўлялі цэлыя пакаленні, Юзаф Ігнацы Крашэўскі сам вызначаў сябе як чалавека з ліцвінскім сэрцам.

І вось камусьці з удзячных нашчадкаў акурат да 200-годдзя Крашэўскага спатрэбілася разбурыць у ягонай родавай сядзібе ў Доўгім, за 7 км ад Пружанаў, старажытны склеп з пахаваннямі. У Старым Купліне, якім валодала знакамітая сям'я (апроч Юзафа Ігнацыя, ягоныя браты, пісьменнік і астраном Каэтан ды мастак Люцыян Крашэўскія), — тагачасныя капліцу і свіран, а ў Купліне сённяшнім замест музея размясціць спецкамендатуру для «хімікаў» з усяго наваколля.



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Выходзіш з каменды на працу, трушчыш восеньскае золата, срэбра ды медзь на дарожцы, і ў шалясценні лісця старых дрэваў, што памятаюць XIX стагоддзе, і ў трапятанні птушынага пер'я у прысадах старасвецкае сядзібы, ператворанай у вайсковы гарадок і потым закінутай, чуеш, як з рыпеннем пяра па паперы падаюць спісаныя лісты на стол у доме Крашэўскіх.

Народжаны ў навальнічным 1812, падданы царскай Расіі, арыштаваны ў 1830 у Вільні на 1,5 года за сувязь з паўстанцамі, ледзь уратаваны ўцёкамі ў 1863, судзімы за «шпіянаж супраць Прусіі» ў 1883 (зноў 1,5 года ў крэпасці ў Магдэбургу), пішучы цягам усяго жыцця, Крашэўскі адзінаасобна нанёс такі ўдар імперыі, усю магутнасць якога яна адчула толькі праз дзесяцігоддзі — у 1918, з паўстаннем Другой Рэчы Паспалітай, у 1980, калі «Салідарнасць» узломвала лёд маскоўскага камунізму. 600 тамоў Крашэўскага сталіся дынамітам, закладзеным у падваліны свядомасці паняволеных палякаў — і спрацавалі праз некалькі пакаленняў па ўсёй краіне мацней, чым арсеналы паўстанцаў.

Пабожны каталік, Юзаф Крашэўскі ўрабляў у палякаў тое поўнае плёну ўроднае поле веры, надзеі і любові да Радзімы, на якім пасля збіралі і чытач Крашэўскага Пілсудскі, і чытач Крашэўскага Валенса, і чытач Крашэўскага Ян Павал ІІ.

**У героях Крашэўскага пазнаюцца: соймавы маршалк Шушкевіч, шляхціц Статкевіч, ваявода Казулін, князь Мілінкевіч, магнат Някляеў, кароль Зянон**

У кнігі Крашэўскага глядзіш праз стагоддзі, бы ў люстра, і пазнаеш у сённяшняй Беларусі тую, вялікалітоўскую, родненькую: тое, што ў Міцкевіча — эпічная паэзія, у Караткевіча — прыўкрасная легенда, у Крашэўскага — само жыццё як яно ёсць. У вобразах Вітаўта і Ягайлы, Януша Радзівіла і Станіслава Панятоўскага, Пане Каханку і Караля Хадкевіча — у словах, абліччах, сварках, подзвігах і слабасцях, ува ўсёй невынішчальнай ліцвінскай беларускасці ўгадваем і соймавага маршалка Шушкевіча, і шляхціца Статкевіча, і ваяводу Казуліна, і князя Мілінкевіча, і магната Някляева, і караля Зянона.

Мова з беларусізмамі ды ўкраінізмамі, гісторыя Польшчы і Літвы, жыццё ў Дрэздэне і Жэневе — у грудзях Крашэўскага білася сэрца Еўропы, зроднае Скарыну, Міцкевічу, Мілашу.

Працаголік Крашэўскі пісаў так, што чытачы не паспявалі прачытваць, а выдаўцы — выдаваць. У неверагоднай плоднасці Крашэўскага, як і ў велічыні асобаў, спароджаных адной сям'ёй, адным коранем, скразіць набрынялая водамі і тоўшчамі гісторыі, крывёю і жалезам, гніллю і жыццёвай сілай дрымотная і стоеная беларуская глыбіня.

Тым вечным беларускім жалейнікам, хто ные ды апускае рукі, — маўляў, народ, як дрыгва, няма моцы, душаць. А аднаму рэжым ды імперыю не пераламаць — трэба прыехаць сюды, у Куплін, утаропіцца ў апетыя Юзафам Крашэўскім глыбокія-глыбокія люстраныя балацявіны, і, добра ўгледзеўшыся, убачыць адказ: ЯК.

У ліпені наступнага, 2012, Юзафу Ігнацыю Крашэўскаму спаўняецца 200. Рыхтуецца Польшча, памятаюць берасцейскія ды пружанскія краязнаўцы — а Беларусь...

Калі ўжо беларус нарэшце пазнае ў Крашэўскім сябе?

У самым глухім куце зямлі, у самы змрочны час, на самым дне гісторыі і адзін чалавек здольны перамагчы, калі разам з гэтым чалавек у асабістай свабодзе, веры, моцы і працы — Бог.

*Куплін*

# Грошы на рэвалюцыю

Ці адбыўся б пажар «пралетарскай рэвалюцыі», калі б раней не згарэла хата слесара Гельфанда ў Беразіне? Пра аднаго з аўтараў бальшавіцкага перавароту, Аляксандра Парвуса, піша **Анатоль Сідарэвіч.**



> Бальшавікі атрымалі ад нямецкага ўрада ад 37 да 57 мільёнаў марак да перавароту і мінімум 17 мільёнаў адразу пасля яго

**Аляксандр-Ізраіль Парвус-Гельфанд.**

Берлін. 1 жніўня 1936 г. Гітлер адкрывае XI Алімпійскія гульні. Гаўляйтар Берліна Гёбельс, па абавязку гаспадара, ладзіць для выдатных асоб вялікі прыём у сябе на віле. Тую вілу можна пабачыць і сёння: на востраве Шваненвердэр на рацэ Гавель. Не ўсе госці гаўляйтара ведалі, што раней віла належала сыну сціплага слесара з мястэчка Беразіно Мінскай губерні Аляксандру Гельфанду.

Калі ў 1867 годзе ў сям'і Лейзара Гельфанда нарадзіўся сын, хто мог здагадвацца, што малы Ізя стане адным з рухавікоў разбурэння старога сусветнага ладу. І хто ведае, які лёс чакаў бы малога, калі б падчас пажару ў мястэчку не згарэў дом Гельфандаў. Сям'я з чатырохгадовым сынам пераехала ў Адэсу. Застаўшыся ў Беразіне, хлопчык скончыў бы хедар і стаў бы за бацькаў варштат. У Адэсе ж ён атрымаў належную адукацыю, змог паступіць у Базельскі ўніверсітэт і стаць доктарам філасофіі ў галіне эканомікі і фінансаў. У гісторыю ўвайшоў як тэарэтык, палітык і фінансіст пад імем Аляксандра Львовіча Парвуса, або проста Парвуса.

### Выдавец, публіцыст і рэдактар

Чаму Парвус? Пад псеўданімам Parvus (Маленькі) Гельфанд апублікаваў у 1894 г. адзін са сваіх артыкулаў у часопісе нямецкай сацыял-дэмакратыі Die Neue Zeit («Новы час»), які рэдагаваў сам Карл Каўцкі.

Чалавек авантурны, апатрыд, Парвус з сябрам у 1899 г. па падробленым пашпарце з'ездзіў у Расію і напісаў кнігу «Галадаючая Расія». Яна мела гучны поспех у Нямеччыне.

Гельфанда запрасілі спачатку на пасаду рэдактара Leipziger Volkszeitung («Ляйпцыгскай народнай газеты»), а потым Sachsische Arbeiterzeitung («Саксонскай рабочай газеты») у Дрэздэне. Парвус упершыню зрабіў марксісцкую газету прыбытковай.



**Якаў Ганецкі, асабісты сябра Леніна. Пасрэднік паміж Парвусам і Леніным. Праз яго бальшавікам плылі нямецкія грошы.**



Habe am 29 Dezember 1915 eine Million Rubel in russischen Banknoten zur Förderung der revolutionären Bewegung in Russland von der deutschen Gesandtschaft in Kopenhagen erhalten
Dr A Helphand

**Распіска Парвуса: «Атрымаў 29 снежня 1915 адзін мільён рублёў у банкнотах на патрэбы рэвалюцыйнага руху ў Расіі ад пасланніка Нямеччыны ў Капенгагене. Др. А. Гельфанд».**

Уладзімір Ульянаў прасіў даслаць яму тэксты Парвуса ў сібірскую ссылку, а Парвусаву кніжку «Сусветны рынак і сельскагаспадарчы крызіс» (1897) настойліва рэкамендаваў чытаць усім, хто цікавіцца гэтай тэмаю.

Першыя нумары «ленінскай» «Искры» друкаваліся на кватэры Парвуса ў прыгарадзе Мюнхена. Самымі бліскучымі аўтарамі газеты былі Парвус і Троцкі. Ленін саступаў ім месца на першай паласе газеты.

У рэвалюцыйным 1905 годзе Парвус з Троцкім выехалі ў Расію раней за Леніна. Троцкі стаў фактычным кіраўніком Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў. Таўстун Парвус (дзеці Каўцкага называлі яго доктарам Сланом) забяспечваў ідэалагічны бок справы. Трапіўшы ў яго рукі, ліберальная «Русская газета» пачала выходзіць накладам 500 тыс. асобнікаў. У друкарні не хапала магутнасцяў.

На ўздыме рэвалюцыі Парвус напісаў маніфест з заклікам да эканамічнага байкоту ўрада: «Не плаціць у казну выкупных і ўсякіх другіх плацяжоў. Патрабаваць, каб пры ўсіх здзелках, пры выплаце... жалаванні плацілі б золатам, срэбнымі рублямі. Забіраць грошы з дзяржаўнага банка, патрабуючы ўсю суму золатам». Гэты заклік падтрымала і Беларуская Сацыялістычная Грамада.

Можна сцвярджаць, што Парвус мае дачыненне і да газеты «Звязда». Гісторык Яўген Бараноўскі пісаў, што мінскія бальшавікі атрымалі ў жніўні 1917-га дзве тысячы рублёў на газету ад ЦК сваёй партыі. А адкуль былі грошы ў ЦК?

### Муж чатырох жонак

Сацыял-дэмакраты ў тыя часы мелі пурытанскія норавы. Калі ў каго і былі якія грашкі (у Троцкага — дзве жонкі, у Леніна — каханка Інэса Арманд), іх прыхоўвалі. Парвус быў не такі. Таму і рэпутацыю меў сумнеўную — адкрыта прымаць яго номач лічылася маветонам у сацыял-дэмакратычных колах.

Парвус жыў на шырокую нагу, адкрыта жаніўся і разводзіўся, з'яўляўся на людзях з палюбоўніцамі. Максім Горкі, убачыўшы адну з Парвусавых жанчын, назваў яе «сапраўды дарагой». Блізкай сяброўкай Парвуса была і слаўная рэвалюцыянерка Роза Люксембург. У 1906 годзе, калі Парвус сядзеў у Петрапаўлаўскай крэпасці, яна спецыяльна прыязджала ў Піцер. І ім далі спатканне.

Акрамя каханак, у Парвуса было чатыры жонкі. Ад трох ён меў па сыну. Два яго сыны зрабілі дыпламатычныя кар'еры, атрымаўшы адукацыю не без бацькавай фінансавай помачы.

### Архіў Парвуса пачысцілі

Адзін з яго сыноў, Леанід Гельфанд, узначальваў савецкае прадстаўніцтва ў Італіі. Атрымаўшы загад вяртацца ў Маскву, ён зразумеў, што яго там чакае арышт. Гельфанд з дапамогай графа Галеаца Чыяна, зяця Мусаліні, уцёк у ЗША, дзе нябедна пражыў жыццё. Другому сыну Парвуса, дыпламату Яўгену Гнедзіну, давялося прайсці праз ГУЛАГ. У ссылцы ён, як я чуў, быў разам з беларускім паэтам Уладзімірам Дубоўкам. Яны па памяці аднаўлялі творы Шэкспіра. Вярнуўшыся ў Маскву, Гнедзін стаў адным з заснавальнікаў дысідэнцкага руху ў СССР, сябрам акадэміка Сахарава.

Калі ў 1924 г. Парвус памёр, Гнедзін атрымаў ад нямецкага натарыуса прапанову стаць спадкаемцам. Гнедзін тры гады за мяжой парадкаваў бацькаву спадчыну. У адной Швейцарыі той меў на рахунку больш як два мільёны франкаў. Апроч таго — дамы ў Швейцарыі, Капенгагене, віла пад Берлінам... Усе грошы Парвуса і сродкі ад прададзенай маёмасці сын перадаў савецкай дзяржаве. Гнедзін прывёз у СССР на захаванне і бацькаў архіў. Ад яго цяпер засталася меншая частка. І ніводнай паперкі, якая б кампраметавала партыю бальшавікоў...

### Фінансіст рэвалюцыі

Парвус у маладосці паставіў сабе дзве мэты: скінуць цара і зрабіцца асабіста багатым. Ён адкрыта казаў, што на рэвалюцыю трэба грошы, і немалыя. Прыбытак дало Парвусу пасярэдніцтва ў прасоўванні твораў Максіма Горкага ў нямецкія тэатры. П'еса «На дне» толькі ў Берліне была паказаная 500 разоў. Частка ганарару належала Горкаму, частка — расійскай сацыял-дэмакратыі, а частка — самому Парвусу. Як сцвярджаў Горкі, ніхто, акрамя Парвуса, гэтых грошай не бачыў. Пасля гісторыі з тэатрамі Парвуса выключылі з партыі. Ёсць звесткі, што ён потым вярнуў доўг Горкаму.

Асноўныя ж капіталы Парвуса былі зароблены інакш. Неўзабаве пасля рэвалюцыі 1908 года ў Турцыі ён выехаў туды. Быў рэдактарам газеты младатуркаў, а ў час Балканскіх войнаў стаў фінансавым дарадцам урада, прадстаўніком канцэрнаў Крупа і Вікерса ў Асманскай імперыі і пастаўшчыком збожжа. Гэта зрабіла яго мультымільянерам.

Знаёмствы, уплыў і частку сваіх мільёнаў Парвус выкарыстаў на рэвалюцыю ў Расіі. Ён абгрунтаваў неабходнасць саюза Нямеччыны з расійскімі рэвалюцыянерамі, сцвярджаў, што нават у выпадку перамогі Германіі Расія будзе ўяўляць небяспеку, калі не распадзецца. Таму выступаў за вызваленне Фінляндыі, Украіны ды іншых частак імперыі.

Бальшавікі атрымалі ад нямецкага ўрада ад 37 да 57 мільёнаў марак да перавароту і 17 мільёнаў адразу пасля яго. Сем мільёнаў нямецкіх урадавых грошай прайшлі асабіста праз Парвуса. Ён заснаваў у Капенгагене экспартна-імпартную гандлёвую кантору. Частка яе прыбыткаў ішла на справу рэвалюцыі, але галоўнае, што кантора пераводзіла грошы на пэўны рахунак у Піцеры, да якога мелі доступ бальшавікі.

Пасярэднікам паміж Парвусам і бальшавікамі быў Якаў Ганецкі (Фюрстэнберг), асабісты сябар Леніна. Сам Ільіч як разумны палітык у грашовых справах не «свяціўся».

Білет у славуты апламбаваны вагон, які прывёз яго ў Расію, Ленін таксама атрымаў ад фінансіста з Беразіна. Гэта Парвус выказаў ідэю правезці Леніна і Зіноўева, які чакаў арышт на тэрыторыі Францыі і Англіі, праз Нямеччыну. Было вырашана пасадзіць у той славуты вагон адразу сорак эмігрантаў, каб бальшавіцкія правадыры згубіліся ў іх масе.

Пасля расійскай і германскай рэвалюцый Парвус бяздзедна жыў на віле пад Берлінам, кантактаваў з сацыял-дэмакратычнымі лідарамі Нямеччыны. Памёр ён у 1924-м, у адзін год з Леніным.

...Калі б у нас мясцовай уладзе была дазволеная хоць якая ініцыятыва, Беразіно стала б турыстычным цэнтрам. Штодня прыязджалі б групы з Расіі, Нямеччыны, Турцыі, а экскурсаводы паказвалі б ім падабенства дома, дзе нарадзіўся суаўтар савецкай улады і адзін з трох аўтараў — побач з Леніным і Троцкім — кастрычніцкага перавароту 1917 года, які перадвызначыў ход сусветнай гісторыі на наступнае стагоддзе.

**Парвус быў бліскучым палітычным аналітыкам**

Напрыклад, ён яшчэ ў 1895 прадказаў непазбежнасць расійска-японскай вайны. Калі ж вайна пачалася, быў пэўны, што следам будзе сусветная, а за ёй рэвалюцыя ў Расіі. Пасля рэвалюцыі ў Расіі, быў упэўнены ён, адбудзецца рэвалюцыя ў Нямеччыне. У 1921 Парвус казаў: калі краіны Антанты разбураць Нямеччыну, яны ператвораць нямецкі народ у арганізатара Другой сусветнай вайны.



**Парвус і Роза Люксембург былі больш чым таварышы па партыі.**

# Горан Брэгавіч у Мінску



**1 снежня а 19-й у Палацы Рэспублікі** — канцэрт Горана Брэгавіча і ягонага вясельнага і пахавальнага аркестра. Білеты ад 80 да 290 тысяч.

## ФУТБОЛ

### 33 тур

**27 лістапада** адбудзецца заключны тур Чэмпіянату Беларусі па футболе. Паміж сабой сустракаюцца: «Нёман» — «Тарпеда-БелАЗ», «Дняпро» — «Віцебск», «Дынама» (Брэст) — БАТЭ, «Дынама» (Мінск) — «Мінск», «Шахцёр» — «Гомель», «Нафтан» — «Белшына».

## ГАНДБОЛ

### Кубак выкліку

**27 лістапада ў Магілёве** ў рамках 1/16 Кубка выкліку сустрэнуцца мясцовы «Машэка» і «Градачац» (Боснія і Герцагавіна).

## ХАКЕЙ

### Прыедзе «Тарпеда»

**28 лістапада на «Мінск-Арэне»** сустрэнуцца «Дынама» з «Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад). **Пачатак у 19:00.**

## ІНТЭРНЭТ

### Drupal-злёт

**26 лістапада ў Мінску** адбудзецца Drupal-злёт, на яго запрашаюць вэб-распрацоўшчыкаў і інтэрнэт-актывістаў для абмену вопытам, ведамі.

## ІМПРЭЗЫ

### III Адкрыты Кубак па хастлу

**27 лістапада ў Мінску ў Палацы спорту(пр.Пераможцаў, 4)** пройдзе III Адкрыты Кубак па хастлу — парным сацыяльным танцы, які з'явіўся ў ЗША. **Пачатак а 13-й.**

### Беларуская фантастыка

**27 лістапада а 18-й у кнігарні «Галіяфы» (Падземка, пр.Незалежнасці, 43)** — прэзентацыя калекцыі беларускай фантастыкі. Выпуск 1 — кніга Сержа Мінскевіча «Сад самкнёных гор». Уваход вольны.

## КАНЦЭРТЫ

### Песні Беларусі

**29 лістапада а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады** — канцэрт «Песні Беларусі».

### Zakopower

**24 лістапада а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт польскага гурта Zakopower з удзелам беларуска-нямецкага праекта Kriwi.

### Кейка Мацуі

**24 лістапада а 19-й у Палацы Рэспублікі** — канцэрт японскай піяністкі і кампазітара Кейкі Мацуі.

### Гаротніца

**27 лістапада а 18-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — «Гаротніца».

### Кіно

**4 снежня а 19-й у Графіці (зав. Калініна, 6)** — акустычны трыб'ют-канцэрт «Кіно». Бяруць удзел «Дай Дарогу», Пётр Клюеў і іншыя.

## ВЫСТАВЫ

### Імпрэсія святла

**У мастацкай галерэі «Беларт» (К.Маркса, 4) да 28 лістапада** працуе выстава твораў Алеся Шатэрніка. Вядомы беларускі скульптар на дадзенай выставе вырашыў прадставіць шырокаму колу гледачоў свае жывапісныя творы. Большую частку экспазіцыі склалі краявіды, створаныя вакол беларускай вёскі Вайшкуны на Віцебшчыне.

### Краіна цудаў

**У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (пл.Кастрычніцкая, 1) да 10 снежня** працуе выстава Аксаны Аракчэевай «Краіна цудаў», дзе можна ўбачыць ілюстрацыі да дзіцячых кніг, часопісаў, афішы і запрашальнікі Тэатра юнага гледача, а таксама работы да анімацыйнай стужкі «Прылятай, ветрык!», дзе Аксана Аракчэева выступіла ў якасці мастака-пастаноўшчыка.

### Манументальная пластыка

**У галерэі Акадэміі мастацтваў (пр. Незалежнасці, 81)** працуе выстава «Манументальная пластыка», на якой прадстаўленыя творы студэнтаў і выкладчыкаў кафедр манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, скульптуры, інтэр'ера і абсталявання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

### Чароўны свет, народжаны маленькай іголкай

**Да 27 лістапада ў Гістарычным музеі** працуе выстава вышытых карцін клуба «Сузор'е».

Работы, прадстаўленыя на выставе, адкрываюць чароўны свет сучаснай вышыўкі. Вышывальшчыцы робяць свае палотны ў розных тэхніках вышыўкі: крыж, паўкрыж, габеленавае шво, ручная гладзь, машынная мастацкая гладзь.

### Новая калекцыя

**Да 26 лістапада ў Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава, што адбываецца ў межах традыцыйнага штогадовага праекта Музея пад назвай «Новая калекцыя», мэта якога — пазнаёміць гледача з апошнімі паступленнямі ў фонды музея.

Выстава «Новая калекцыя-2011» аб'яднала на экспазіцыі творы жывапісу і графікі, а таксама арт-аб'ект, якія належаць мастакам сталага пакалення. Аснову экспазіцыі склалі творы былых удзельнікаў мастацкага аб'яднання «Няміга-17» — жывапісцаў Анатоля Кузняцова, Сяргея Кірушчанкі і скульптара Тамары Сакаловай, а таксама беларускага жывапісца, што пражывае за мяжой, — Наталлі Залознай.

### Маякі

**Мастацкая галерэя «Вільнюс» (Каліноўскага, 55)** запрашае на выставу баціка Алены Рэшатавай «Маякі». На выставе прадстаўленыя больш за 30 прац, выкананых у тэхніцы халоднага і гарачага баціка.

### Канстанцін Быліч

**У Гасцёўні Уладзіслава Галубка (Старавіленская, 14) да 26 лістапада** працуе выстава «105 год з дня нараджэння заслужанага артыста Беларусі Канстанціна Фёдаравіча Быліча». Яго акцёрская кар'ера выпала на канец 1920-х — сярэдзіну 1940-х гг. Сваю акцёрскую дзейнасць К.Быліч спалучаў з эстраднай: выступаў як канферансье, мастацкі чытальнік, танцор. Акрамя таго праяўляў сябе як здольны тэатральны мастак. На выставе прадстаўлены фотаздымкі акцёра (як асабістыя, так і з роляў са спектакляў). Значнае месца займаюць уласныя жывапісныя творы і замалёўкі акцёра канца 1930-х гадоў, а таксама эскізы дэкарацый і касцюмаў да спектакляў.

### Кераміка і парцаляна Кітая

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** да 24 лістапада працуе выстава «Кераміка і парцаляна Кітая». Калекцыя дае ўяўленне аб развіцці керамічнага майстэрства Кітая. Вы можаце ўбачыць керамічныя вырабы дыстанцыі Мін і Цын, а таксама сучасную кітайскую кераміку.

## ТЭАТРЫ

### 24 лістапада

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

### 25 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»

### 26 лістапада

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 27 лістапада

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 28 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на грані нервовага зрыву»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»

### 29 лістапада

**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 30 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»

### 3 снежня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 4 снежня

**Лялек** — «Жудасны спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

## КІНО

### Хто схаваўся пад маскай Шэкспіра?

**Ананім** (Anonymous)
Нямеччына — Вялікабрытанія, 2011, каляровы, 130 хв.
**Рэжысёр:** Роланд Эмерых
**Ролі выконваюць:** Рыс Іванс, Ванэса Рэдгрэйв, Себасцьян Фернандэс-Арместа, Рэйф Спол
**Жанр:** гістарычная драма
**Адзнака:** 7 (з 10)

Пачатак XVII стагоддзя. Драматург Бен Джонсан мусіць расказаць у катавальні ўсё, што ён ведае пра аўтара шэкспіраўскіх п'есаў. Цяпер і гледачы даведаюцца пра таямнічага аўтара.

Аўтар фантастычных стужак Роланд Эмерых звярнуўся да гістарычнага жанру. Але ідэя, якую Эмерых песціў 10 гадоў, зусім не з'яўляецца фантастычнай. Мы прызвычаіліся, што «Гамлета», «Караля Ліра» склаў не хто іншы, як геній Уільям Шэкспір. Але аўтарства простага акцёра аспрэчваецца. Існуе цэлая навуковая школа з сур'ёзнымі аргументамі.

Эмерых стварыў дэкарацыі Лондана на камп'ютары: вада з лужынаў ляціць нам у твар. Шэкспір (Рэйф Спол) — пацешны напышлівы ёлупень. Граф дэ Вэр (у выкананні Рыса Іфанса) — мудры каханак каралевы (Ванэса Рэдгрэйв). Хаця гісторыкі будуць не задаволеныя, фільм яскравейшы і грунтоўнейшы за саладжавага «Закаханага Шэкспіра».

**Андрэй Расінскі**




## КІРМАШ

### На «Белэкспа»

Выстава «Восеньскі кірмаш» адбудзецца 22—27 лістапада ў НВЦ «Белэкспа». Асноўныя тэматычныя раздзелы экспазіцыі ўключаюць прадукты харчавання, адзенне, абутак, сувенірную прадукцыю, біжутэрыю, парфуму і касметыку.



# Мяняць мабільнага аператара стане лягчэй

Як перайсці да іншага аператара і **захаваць нумар мабільніка**?

Праз некалькі месяцаў у Беларусі можна будзе пераходзіць ад аператара да аператара хоць кожны тыдзень, захоўваючы пры гэтым свой тэлефонны нумар. Мабільны аператар Life:) здолеўтакі пралабіраваць прыняцце такога рашэння. Размовы пра паслугу «перанос нумара» вяліся ў краіне год за годам, але МТС і Velcom не мелі ўпэўненасці на конт яе патрэбы.


Можна чакаць зніжэння цэнаў на мабільныя паслугі.

### Сістэма «свой-чужы» знікне

Цяпер беларусы мяняюць мабільнага аператара рэдка. Галоўная прычына навідавоку — надзвычай складана праінфармаваць усіх людзей з запісной кніжкі пра свой новы нумар. Таму «старыя» аператары даволі трывала трымаюць сваіх ранейшых абанентаў, супраць чаго выступаюць кантралюючыя органы і, вядома ж, «маладыя» аператары.

Магчымасць «пераносу нумара» абавязковая для краін, якія ўступаюць у Еўрасаюз, карыстаюцца ёй і ў Амерыцы, і ў Азіі. Напрыклад, у Ганконгу, які ўвёў паслугу адным з першых, за першы год трацiна абанентаў перайшла да новага аператара.

**Прыняцце рашэнне пралабіраваў турэцкі Life:) »**

У большасці краінаў, якія дазволілі перанос нумароў, цана міжсеткавых званкоў хутка знізілася. Да такога прыйдзе і Беларусь, хоць пакуль што сітуацыя выглядае іншай. Напрыклад, на адным з самых папулярных тарыфаў ад МТС «Будзь практычным» цана званка па-за сетку складае 300 рублёў за хвіліну. У Velcom сітуацыя падобная: «Справы сямейныя» і «Кеды» прадугледжваюць ажно 411 рублёў за хвіліну размовы з іншымі сеткамі. У Life:) гэтыя лічбы вагаюцца паміж 169 і 299 рублямі.

### Асцярожна, дарагі званок!

Як будзе працаваць новая сістэма? На паперы выглядае даволі проста. Напрыклад, абанент Velcom з прэстыжным нумарам 8-029-666-66-66 вырашае карыстацца паслугамі Life:). Ён звяртаецца ў офіс свайго аператара з заявай на адключэнне і атрымлівае даведку, што той не мае фінансавых прэтэнзій.

Адтуль абанент рушыць да новага аператара і падключаецца да яго, прычым у яго застанецца нумар 8-029-666-66-66. Тыя, хто будзе яму званіць, перад злучэннем пачуюць дзесяцісекунднае папярэджанне. Маўляў, асцярожна — абанент перайшоў да іншага аператара. Хто не захоча плаціць за міжсеткавы званок, паспее скінуць слухаўку. Пакуль не прагучала вітальнае «алё» ад суразмоўцы, грошы здымацца не будуць

### Новы фармат

Беларусам застаецца змірыцца з тым, што код 8-029-7 — гэта не абавязкова МТС, а 8-025 цяпер будзе не толькі Life:). Шмат хто з тых, хто нядаўна клаў грошы на рахунак, заўважыў, што ў іх на пошце ці ў банку прасілі дадаткова ўказваць прэфікс нумара — тыя самыя 0-29 ці 0-44. Цяпер гэта будзе абавязковым, каб пазбегнуць блытаніны.

**Ягор Марціновіч**

# Швейцарская электрычка даехала да Брэста

Тры з паловай гадзіны камфортнай дарогі **каштуюць усяго 21 500 рублёў**.

Беларуская чыгунка адкрывае рэгулярны рух швейцарскіх электрычак Stadler у паўднёва-заходнім накірунку. Фармальна даехаць з Мінска ў Брэст удасца толькі з перасадкай у Баранавічах, але час чакання наступнага цягніка (калі быць дакладнымі — таго самага) складзе ўсяго 15 хвілін. Падчас шляху ў сталіцу стаянка зойме амаль гадзіну.

Рух пачаўся 19 лістапада, і пакуль што на маршруце працуе толькі адзін цягнік. Кошт праезду ад Мінска да Брэста складзе каля 20 тысяч рублёў, гэта столькі ж, як у агульных вагонах іншых хуткіх цягнікоў, якія едуць па гэтым самым маршруце.

**ЯМ**

**Даведка Беларускай чыгункі**

Канструкцыйныя хуткасць электрацягніка рэгіянальных ліній для беларускай магістралі складае 160 км/г. Сярод перавагаў — мяккае тармажэнне; сістэма жорсткай счэпкі паміж вагонамі і адмысловая канструкцыя апоры вагона на вазок, якая забяспечвае плаўны ход; прыстасаванне цеплавых завесаў уваходных дзвярэй. Ад цягнікоў гарадскіх ліній адрозніваецца расстаноўкай мяккіх сядзенняў з падлакотнікамі па сістэме «2+2».

**Існуючыя маршруты гарадской электрычкі**

Мінск—Заслаўе

Мінск — Калядзічы — Рудзенск (у тэставым рэжыме)

*Прыпынкі па дарозе да Брэста*

Дзяржынск — Стоўбцы — Баранавічы — Івацэвічы — Бяроза — Жабінка

| Расклад руху | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Мінск-Пасажырскі | 08:25 | | | 17:05 |
| Баранавічы-Палескія | 09:57 | 10:12 | 14:39 | 15:33 |
| Брэст-Цэнтральны | | 12:09 | 12:43 | |

# ДАІ ўсталёўвае на дарогах макеты дзікоў

Тыя **свецяцца па начах**, папярэджваючы пра небяспеку.

Новы арыгінальны спосаб арганізацыі дарожнага руху прыдумалі ў гомельскім ДАІ. Кіроўцы ўжо прывыклі да макетаў даішнікаў на дарозе, таму іх вырашылі здзівіць... дзікімі звярамі. Мясцовае ўпраўленне ДАІ стала ініцыятарам ўсталявання на дарогах макетаў дзікоў, якія свецяцца. Пакуль што сілуэты, зробленыя з тонкіх лістоў металу, усталяваныя каля дачнага пасёлка ва ўрочышчы Клянкі і абласнога цэнтра.

«Увесь сэнс прысутнасці макетаў уздоўж дарогі можна зразумець толькі вечарам ці ноччу, калі святло фар ад аўтамабіляў трапляе на макет: спачатку кіроўца заўважае толькі невялікую светлую пляму, якая з кожным метрам робіцца ярчэйшай, ды яшчэ і павялічваецца ў памерах. На макеты нанесеная спецыяльная светлаадбівальная сумесь, і эфект ад такога яркага начнога звера будзе ў разы перавышаць дзеянне флікера, што прымусіць кіроўцу машынальна знізіць хуткасць», — тлумачаць сутнасць ідэі ў ДАІ.

Кіраўніцтва мясцовай ДАІ бачыць у гэтым толькі перавагі. Па-першае, паблізу гэтага ўчастка дарогі размешчаныя дачныя кааператывы, што павялічвае інтэнсіўнасць руху пешаходаў уздоўж праезнай часткі, а таксама ўзрастае рызыка наездаў на іх. Па-другое, макеты паблізу ляснога масіву папярэджваюць кіроўцаў аб магчымым з'яўленні ў гэтых месцах сапраўдных дзікіх жывёл.

**БелаПАН**



## Прыватныя абвесткі

**ГУРТОК**

**Запрашаем** творчую і свядомую моладзь на заняткі лінагравюрай. Бясплатна. Цэнтр. Т.: (029) 369-69-53.

**КНІГІ**

**Тэрмінова** набуду два асобнікі кнігі «Беларускі арнамент» М.С. Кацара. Т.: (029) 619-80-53 (Ала).

**ДАПАМОГА**

**Інвалід 2-й групы** мае патрэбу ў камп'ютары альбо лэптопе б/к. Калі хто мае на продаж у растэрміноўку ці проста можа падараваць ,буду вельмі ўдзячны. Сяргей. mahiloviec@gmail.com. Т.: (025) 640-75-78.

**АБІТУРЫЕНТАМ**

**Дапамога** абітурыентам, школьнікам іншых класаў. Фізіка. Матэматыка. Т.: (029) 560-31-89.

**Матэматыка**, фізіка ад А да Я. Кандыдат навук. Экспрэс-падрыхтоўка да ЦТ, ліквідацыя прабелаў, кантрольныя, нядорага. Выезд на дом. Т.: (029) 634-69-41.

**ПРАДАМ**

**Прадам** ZENIT TTL і нямецкую друкавальную машынку «Эрыка». Т.: (029) 986-76-05.

**Прадам** крыўска-расійскі слоўнік Вацлава Ластоўскага. Т.: 276-15-98.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



Матацыкл «Мінск» на еўрапейскім мотасалоне ў Мілане ўпершыню ў гісторыі. Першай мадэллю, абранай для выхаду на еўрапейскі рынак, стаў «Мінск М4 200» — класічны матацыкл, створаны ў стылі 50-х гадоў XX стагоддзя. Мадэль распрацавана ў супрацоўніцтве з беларускім кастамайзерам Юрыем Шыфам.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У Мінску пачалі ставіць навагоднія ёлкі. Першая з іх з’явілася ля Чыгуначнага вакзала. Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама, у беларускай сталіцы мантаж і ўпрыгожванне навагодніх ёлак арганізацыямі і ўстановамі горада павінна быць завершана 1 снежня.



Пуцін пайшоў па слядах Лукашэнкі. Цяпер ён таксама гуляе ў хакей з зоркамі гэтага віду спорту. Разам з прэм’ер-міністрам Расіі на лёд выходзілі такія майстры мінулага, як Бурэ, Быкаў, Касатонаў. Праўда, першы нумар Пуцін не ўзяў, абмежаваўся двума адзінкамі — 11-м.



## Анекдоты

* * *

Прэм’ер-міністр прэзідэнту:

– Добрая навіна! Мы прадалі МАЗ за 800 мільёнаў даляраў!

– А не танна за адну машыну?

– За адну машыну?!

* * *

У канцы снежня рост цэнаў на гэты год будзе спынены.

* * *

Пуцін пайшоў следам за Лукашэнкам і ўзяў у рукі клюшку. Лепш бы яны заняліся муай-тай і пачалі выступаць у спаборніцтвах з прафесіяналамі.

* * *

— Адчыніце, міліцыя!

— І хто ж вас там зачыніў?!

* * *

Паважаныя пасажыры, беражыце свае рэчы. Рэч Паспалітую не ўберагли, дык хоць свае беражыце.

* * *

Асвятляць цёмны завулак айфонам — не самая ўдалая ідэя.

* * *

— Як ты так схуднела? Гэта новая дыета?

— Так, морква, буракі і бульба.

— А што рабіла — варыла ці смажыла?

— Капала!




Такая неадназначная беларускамоўная рэклама ноўтбукаў з’явілася ў Гомелі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Ганута.** Свянцянскі павет. Селянін з вёскі Высокая Прыстань Міхал Мамай з жонкай павезлі хрысціць дзіця селяніна Сымона Мамая. З кумамі была і бабка Аляксандра Кізік. Дадому варочаліся а 8 гадзіне вечара. На дарозе, каля млына, праламаўся мост і конь з павозкай і седакамі з 7-аршыннай вышыні рынуліся ў ваду. Дзіця і конь утапіліся, а бабка зламала нагу. Кум і кума засталіся цэлымі. Дзіця знайшлі на другі дзень.

**«НН». №46. 1911.**

**12 лістапада Гаспадарчы суд спыніў выхад газеты «Пагоня».** Рашэнне хоць і выклікала шок, разглядаецца як чарговая рана — не смяротная, мо і не апошняя. Няма таго пачуцця безнадзейнасці, якое выклікала 4 гады таму кожная забарона, кожны разгон.

**«НН». №47. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7600. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 22.11.2011.
Замова № 5586.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614